


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

13 чэрвеня 2003 года

№ 24 (425)
Выходзіць па пятніцах

Плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну



### Дзяцінства і сям'я

**АШМЯНЫ.** Упершыню ў райцэнтры прайшло буйное сумеснае свята дзяцінства і сям'і. Яно атрымалася больш, чым свята горада.

Падчас яго павіншавалі 10 сем'яў з сярэбраным юбілеем. І прынародна зарэгістравалі 2 немаўляці.

**Ірына РАБУШКА.**

### Бяда ў дарозе

**АСТРАВЕЦ.** Дарожна-транспартнае здарэнне, што адбылося на аўтадарозе Астравец-Варняны, забрала жыццё 37-гадовага гараджаніна. Мужчына не справіўся з кіраваннем, перакуліўся і загінуў. Дома засталіся жонка і двое непаўналетніх дзяцей.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Збіраецца ў Чэхію

**ВІЛЕЙКА.** Пераможцам рэспубліканскага літаратурна-мастацкага конкурсу, аб'яўленага Міжнародным грамадскім аб'яднаннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", стаў юны мастак гімназіі Яўген Мельнікаў. Сямікласніка ўзнагародзілі пуцёўкай ў Чэхію, дзе ён прабудзе два тыдні.

**Марына СЛІЖ.**

### Супрацоўніцтва дае плён

**ВАЛОЖЫН.** Пятнаццаць гадоў плённага супрацоўніцтва адзначылі МАУП "Валожынская райаграпрамтэхніка" і Мінскі трактарны завод. Дзякуючы мінчанам на прадпрыемстве з'явіліся новыя заказы, а значыць, і рабочыя месцы. Працуе дылерскі цэнтр, дзе можна набыць магутныя МТЗ апошніх мадыфікацый, а таксама зрабіць іх тэхабслугоўванне.

**Алена ЛАШУК.**

### Васьмікласнік угнаў іншамарку

**МЯДЗЕЛ.** Са стаянкі пансіяната "Жураўка" ўгналі аўтамашыну "Міцубісі". Аказалася, што здзейсніў гэта васьмікласнік Занарацкай школы. Ён не справіўся з кіраваннем, і машына з'ехала ў кювет і перакулілася.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Згарэў хлопец

**МАЛАДЗЕЧНА.** У ноч з 6 на 7 чэрвеня згарэў хлопец. Трагедыя адбылася ў доме, які знаходзіцца на 2-м Сухім завулку. Хлопец быў адзін у хаце. Першым загарэўся ложак. Мяркуецца, што прычынай пажару стала курэнне ў нецвярозым стане.

**Ірына РАБУШКА.**

# Надзвычайнае становішча



Цяжка ў вучэнні – лёгка ў баі. Каманда-пераможца чыгуначнай станцыі «Маладзечна» перад стартам чарговага этапа на спаборніцтвах санітарных дружын.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

**МАЛАДЗЕЧНА. Ці змогуць правільна спрацаваць прадпрыемствы ў надзвычайных сітуацыях?**

Апошні раз адказ на гэта пытанне быў 15 год таму. Сёлета спаборніцтвы медыка-санітарных невандзізаваных фарміраванняў аднавілі. У сучасным Маладзечне абавязкова павінны працаваць пры надзвычайным становішчы чыгунка, «Спадарожнік», «Электрамодуль». Аўтапарк, часткова камбінат хлебапрадуктаў эвакуіруюць. На раёне ўсе прадпрыемствы застануцца ў рабоце, бо яны разгрупаваныя.

Адзінае абмежаванне да ўдзелу ў спаборніцтвах - узрост ад 18 да 45 гадоў. Санітарныя дружыны і звёны прайшлі 6 этапаў. Суддзі правяралі, як яны аснашчаныя, як працуюць у ачагу ядзернага паражэння. На гэтым этапе ўдзельнікі аказвалі дапамогу шасці «пацярпелым», выносілі іх з ачага. Складана даваліся штучнае дыханне і масаж сэрца. На гэты этап адвялі 35 хвілін. Пасля ядзернага «забруджвання» праходзілі дэзактывацыю, здымалі радыеактыўны пыл. Суддзя доктар Віктар Белік абурыўся, што некаторыя дружыны і звёны падрыхтаваныя дрэнна. Гавораць, раней такога не было. Не абышлося без памылак і ў рабоце сандружынаў і звёнаў у ачагу хімічнага, інфекцыйнага «забруджвання». Амаль усе добра надзяваюць процівагазы... за 10-12 секунд. На 5-м этапе правяралі работу санітарных дружынаў у шпітальным аддзяленні. Суддзя загадчыца бактэрыялагічнай лабараторыі раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (РЦГіЭ) Алена Васілевіч лічыць, што тэарэтычнымі ведамі ўдзельнікі валодаюць. Яе ж калега загадчыца аддзялення бальнічнай гігіены РЦГіЭ Аліна Малуха сказала:

– Вельмі блытаюцца. Адказваюць бессістэмна. Без кіраўніка яны не справяцца. Урэшце, сандружыны і звёны арганізаваныя дзеля таго, каб працаваць пад кіраўніцтвам доктара.

У каманд было няшмат часу для падрыхтоўкі. Напрыклад, прадстаўнікі ад завода металічных канструкцый рыхталіся месяц. Адзін аднаму перавязкі рабілі. 50 бінтоў патрацілі. Разлічвалі на перамогу, хаця свой пачатак у спаборніцтвах ацанілі не надта. Іх сандружына заняла 3-е месца. Камбінат хлебапрадуктаў – 2-е, чыгуначная станцыя «Маладзечна» – 1-е. Звёны электрасетак, «Маладзечнамэблі», «Энвы» – 1-е, 2-е і 3-е месцы адпаведна. На раёне сярод дружынаў 1-е месца заняў мясакамбінат, 2-е – гармалзавод, 3-е – Радашкавіцкі керамічны завод. 1-м звяном стала каманда «Маладзечнапіва», 2-м – харчкамбіната, 3-м – сельскавытворчы комплекс «Палачаны».

Пераможцаў і лепшых удзельнікаў узнагародзілі граматамі і прэміямі ад 15 да 150 тысяч рублёў.

**Ірына РАБУШКА, Сяргей МАЦЮШОЎ.**

Маладзечна-2003

### Праграма фестывалю

VII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі адбудзецца ў Маладзечне 20–22 чэрвеня.

2-я старонка

### Польшча зрабіла выбар

У мінулыя выхадныя палякі сказалі "так" сваёй прысутнасці ў Еўропе. Што чакае нашых суседзяў з-за Буга?

6-я старонка

### Дайце зарабіць!



Тысячы школьнікаў з нашага рэгіёну хацелі б папрацаваць улетку. Атрымаецца гэта ўсяго ў некалькіх соцень.

7-я старонка

■ ФЕСТЫВАЛЬ

# Святочны сюрпрыз

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні на Цэнтральнай плошчы пачалі манціраваць галоўную сцэну VII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі.**

Ужо вядомая праграма фестывалю. Ён адкрыецца 20 чэрвеня а 9-й гадзіне вечара. Два дні на галоўнай сцэне, у Палацы культуры, на фестывальных пляцоўках будзе гучаць музыка, пройдуць літаратурныя сустрэчы. Паэты і пісьменнікі прыедуць і ў Краснае, Чысць, Радашкавічы. На трэці дзень на Цэнтральнай плошчы пройдзе «Рэха фестывалю». Гараджане і госці сустрэнуцца з вядомымі і новымі маладзечанскімі артыстамі.

Сёлетні святочны горад мае сваю адметнасць. Афармляе сцэну мінская мастачка Галіна Холад. Рэжысіруе фестываль Ніна Восіпава, якая займаецца ўсімі рэспубліканскімі ўрачыстасцямі.

Па словах загадчыцы аддзела культуры гарвыканкома Надзеі Сідарэнкі, заключаюцца дагаворы з прадпрыемствамі, што вырашаць светлавое афармленне горада. Напрыклад, падсвецяць бліжэйшыя да Цэнтральнай плошчы будынкі, а таксама дрэвы ў гарадскім парку. Надзіманыя шары, якія развесяць на вуліцах, вымяраюцца не штукамі, а метрамі. Для ўдзельнікаў і гледачоў фестывалю падрыхтавалі сюрпрыз. Над горадам уздымецца аэрастат - вялікі паветраны шар з надпісам «Маладзечна-2003».

Ірына РАБУШКА.



Фестывальную сцэну манціруюць зранку да вечара. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

## «Крывіцкія зарніцы»

**МЯДЗЕЛ. У Крывічах прайшоў фестываль выканаўцаў эстраднай песні "Крывіцкія зарніцы".**

Хоць конкурс быў раённы, у адной з трох узроставых груп першае месца заняў хлопец з вёскі Язні Вілейскага раёна **Артур Язневіч**. Паміж Крывічамі і гэтай мясцовасцю ўсталяваліся добрыя сувязі.

А Гран-пры фестывалю атрымала Каця Цыгельнікава з Мядзела.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Выстаўка аплікацый

**ВІЛЕЙКА. 10 чэрвеня ў выставачнай зале мясцовага краязнаўчага музея адкрылася экспазіцыя аплікацый з каляровай саломкі Наталлі Пястун з Глыбокага.**

— Хачу, каб мае творы выклікалі замілаванасць да роднай прыроды, беражлівыя адносіны да яе людзей і да саміх сябе, – сказала **Наталля Пястун** на адкрыцці выстаўкі, дэвіз якой "Каб адпачылі вочы і супакоілася душа".

Аляксандр НАРКЕВІЧ.

■ ПОГЛЯД

## Па-за палітыкай

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 чэрвеня ў музвучылішчы прайшоў сход гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Ён быў выкліканы канфліктам, які наспеў у арганізацыі.**

Каля двух год таму кіраўніком гарадской арганізацыі таварыства выбралі маладога энергічнага чалавека – Сяргея Ю. Многія спадзяваліся на тое, што ён зможа ажывіць работу арганізацыі. Праўда, ужо тады было шмат нязгодных з рашэннем большасці. Маўляў, Сяргей яшчэ малады, не мае сапраўднага аўтарытэту ў горадзе, да таго ж яму могуць перашкодзіць працаваць палітычныя амбіцыі – юнак быў вядомы ў Маладзечне як актывіст адной з палітычных маладзёжных арганізацый і наўрад яму ўдасца пазбавіцца ў рабоце непалітычнай арганізацыі ад палітычнай заангажаванасці.

Прайшло два гады. На ніве беларушчыны ў Маладзечне, на жаль, ураджайнасці заўважана не было. Страты ж з'яўляліся. А ўсё, што рабілася, рабілася па–за межамі ТБМ. Нельга ж усур'ёз успрымаць рок–фестываль, як сапраўдную карпатлівую работу па вяртанні мове належнага месца. Да таго ж з афіцыйнага спісу арганізацыі таямніча пачалі знікаць імёны людзей, якія даўно і сумленна шчыруюць дзеля беларускага.

Урэшце, гэта не магло не прывесці да канфлікту, у першую чаргу паміж радай арганізацыі і яе галавой. І каб апярэдзіць натуральнае развіццё падзей – а гэта мог быць недавер сябрам арганізацыі, Сяргей Ю. падае заяву аб сваім сыходзе з пасады, матывуючы крок палітызаванасцю... рады.

Большасцю прысутных паводзіны старшыні былі расцэненыя як звычайная правакацыя. ТБМ, гаварылася на сходзе, – арганізацыя, якая аб'ядноўвае, і так ёсць, людзей розных палітычных поглядаў, і сама палітыкай не займаецца.

Ад 10 чэрвеня рада маладзечанскай гарадской арганізацыі ТБМ перавыбраная, яе старшынёй стаў **Уладзімір Трашчанка**.

Мікола ГАЙДУК.

## VII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі

Маладзечна-2003

### 20 чэрвеня

**Палац культуры**

**16.00** – Нацыянальны акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча. Мастацкі кіраўнік – народны артыст Беларусі Міхаіл Дрынеўскі.
Народны вакальна-этнаграфічны ансамбль «Вячоркі». Кіраўнік – заслужаны работнік культуры Расіі Валянціна Міцкевіч (г. Цюрлёўскі, Расія)

**Цэнтральная плошча** (галоўная пляцоўка)

**21.00** – **урачыстае адкрыццё фестывалю «Беларусь, на цябе я малюся!»**. Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга.
Ансамбль Беларускай тэлерадыёкампаніі "Бяседа". Кіраўнік – народны артыст Беларусі Леанід Захлеўны.
Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай
Ансамблі "Неруш", "Без білета", "Крыві"
Групы "МІХ", "Рэй", "Гуда", "Яр"
**0.30** – Этна-трыо "Тройца". Кіраўнік – Іван Кірчук.

### 21 чэрвеня

**Палац культуры**

**16.00** – *прысвячэнне творчасці М.К.Агінскага.* Сімфанічны аркестр Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М.К.Агінскага пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Рыгора Сарокі
Камерныя калектывы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі
**21.00** – **«Лепшыя беларускія песні»**. Гала – канцэрт зорак беларускай эстрады.

**Музычнае вучылішча імя М.К.Агінскага**

**13.30** – творчая сустрэча з кампазітарам Генадзем Ермачэнкавым
**15.00** – мітынг і ўскладанне кветак да помніка М.К.Агінскаму

**Парк Перамогі**

**12.00** – народны ансамбль песні і танца "Спадчына" Палаца культуры
**12.40** – сустрэча са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесем Пашкевічам
**13.10** – народны хор ветэранаў вайны і працы "Надзея" Дома культуры чыгуначнікаў
**14.00** – сустрэча з вядучым рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура", паэтам Уладзімірам Мазго
**14.30** – фальклорны гурт цэнтра мастацкай творчасці навучэнцаў
**15.00** – сустрэча з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі Раісай Баравіковай
**15.30** – ансамбль народнай песні "Жывіца" цэнтра творчасці і адпачынку ААТ "Электрамодуль"
**16.00** – хор клуба ветэранаў вайны і працы "Адпачынак" Палаца культуры
**16.40** – духавы аркестр МНС г.Маладзечна

**Пляцоўка «Юбілейная»** (вул.Прытыцкага, 16)

**12.00** – творчы калектыў мастацкай самадзейнасці Дома культуры чыгуначнікаў
**12.40** – сустрэча з галоўным рэдактарам часопіса "Вожык", лаўрэатам літаратурнай прэміі імя А. Куляшова Алесем Пісьмянковым
**13.10** – народны ансамбль народнай музыкі "Пацешкі" дзіцячай музычнай школы г.Маладзечна
**13.40** – сустрэча з галоўным рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзімірам Мазго
**14.10** – народны ансамбль народнай песні "Харашуха" выкладчыкаў дзіцячай музычнай школы
**14.40** – сустрэча з паэтам Міколам Шабовічам
**15.10** – народны ансамбль народнай музыкі "Самагуды" дзіцячай музычнай школы
**15.40** – творчы калектыў станказавода

**Пляцоўка, «Белзнешэканомбанк»** (вул.Віленская, 10)

**12.00** – фальклорны гурт в. Мазалі "Крынічанька"
**12.40** – сустрэча з галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё Навумам Гальпяровічам
**13.10** – вакальная група "Беразіначка" Беразінскага СДК
**13.50** – народны ансамбль "Сакавінка" Чысцінскай дзіцячай музычнай школы
**14.30** – сустрэча з паэтам Леанідам Дранько-Майсюком
**15.10** – ансамбль народнай музыкі "Хажоўскія музыкі"
**15.50** – народны ансамбль народнай песні "Маркаўчанка"
**16.30** – ансамбль народнай музыкі "Гарадоцкія музыкі"
**17.00** – народны ансамбль "Рэзананс".

### 22 чэрвеня

Праграма выступлення творчых калектываў горада

**Цэнтральная плошча. «Рэха фестывалю»**

**12.00** – канцэрт творчых калектываў Дома культуры чыгуначнікаў
**12.40** – цымбальны аркестр музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага
**13.10** – творчыя калектывы Маладзечанскага раёна
**16.00** – хор ветэранаў вайны і працы клуба "Адпачынак" Палаца культуры
**16.40** – творчыя калектывы дзіцячай музычнай школы г. Маладзечна
**17.30** – народны духавы аркестр музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага
**18.00** – пераможцы гарадскога конкурсу выканаўцаў эстраднай песні "Сузор"е талентаў – 2003"
**18.30** – эстрадная студыя Палаца культуры "Спяваем разам" пад кіраўніцтвам А. Атрашкевіч
**19.00** – эстрадная група "Прыемнага апетыту!" цэнтра творчасці і адпачынку ААТ "Электрамодуль"
**19.30** – узорная эстрадная студыя "Жывы гук" Палаца культуры
**20.00** – творчы калектыў мастацкай самадзейнасці ЗАТ "Маладзечнамэбля"
**20.30** – эстрадная група "Бульба-бум" і інструментальны квінтэт "СДК" Палаца культуры

Аргкамітэт.

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Раніца пачынаецца з квасу

**МАЛАДЗЕЧНА. На кожнага маладзечанца ў дзень прыходзіцца 15 мілілітраў квасу, які выпускае ААТ "Маладзечнапіва".**

І хлеба ў хлебным квасе, па словах намесніка дырэктара па вытворчасці Любові Благавешчанскай, лічы няма. Квас на піўзаводзе вырабляюць больш за 20 гадоў. Летась распрацавалі ў дадатак да "Хлебнага" новы від – "Хлебны асобы". На "Асобы" больш расходуецца сыравіны, і ён даражэйшы. Хаця на смак наўрад ці хто адрозніць. "Нават я гэтага не зраблю", — гаворыць Л.Благавешчанская. Рэцэпт на "Хлебны" і "Асобы" амаль аднолькавы.

Канешне, ён адрозніваецца ад "бабулінага" квасу. Напэўна, шмат хто памятае, як бабуля ці дзядуля клалі лусту-другую хлеба ў слоік з калодзежнай вадой і дадавалі крыху цукру, а то і без яго. Якая асалода была яго піць, калі пасвіш кароў.

У сучаснага квасу адзінае, што засталося ад хлеба, — збожжа, з якога рыхтуюць сыравіну. Яе закупляюць у гатовым выглядзе на прадпрыемствах Гомельскай і Гродзенскай абласцей.

Сезон на квас пачынаецца ў маі і заканчваецца ў верасні. Квас гатуюць у спецыяльных ёмістасцях з нержавейкі ўмяшчальнасцю 10 тон. За яго тэмпературай, якая спачатку +30 градусаў, а потым ахалоджваецца да +12 градусаў, уважліва сочыць купажыст участка прыгатавання хлебнага квасу Галіна Клімовіч. Варта абавязкова давесці квас да кандыцыі, гаворыць Л.Благавешчанская, ці да патрэбных паказчыкаў. Тэрмін захоўвання квасу – 2-е сутак. Прадтэрмінавацца маладзечанцы яму не даюць. За дзень раскупляюць паўтары тоны квасу, ці шэсць 900-літровых жоўтых бочак, што стаяць на гарадскіх вуліцах. Пасля продажу квасу бочку абавязкова ачышчаюць дэзінфекцыйным растворам. Намеснік дырэктара па вытворчасці лічыць, што вытворчасць квасу вельмі клапатлівая справа. Каб не сапсаваўся і распрадаўся, варта разлічыць, колькі яго трэба прыгатаваць. Што складана, бо продаж залежыць ад надвор'я. Зразумела, у спякоту квас прадаецца хутчэй. Дома ў пластыкавых бутэльках захоўваць яго не трэба, лепш у слоіку, каб не парушыць яго якасць, у чым сумнявацца нельга. Даведалася я па сакрэце, што раніца ў дырэктара гэтага прадпрыемства пачынаецца са шклянкі квасу.

**Ірына РАБУШКА.**




Будзь здароў!

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

■ 15 ЧЭРВЕНЯ-ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКАГА РАБОТНІКА

# Пра людзей, прафесіі адданых...

**Гісторыя развіцця сярэдняй спецыяльнай медыцынскай адукацыі пачалася ў Маладзечне паўстагоддзя таму. Акурат у гэты час, а на дварэ стаяў 1953 год, былі адкрыты двухгадовыя курсы па падрыхтоўцы медыцынскіх сясцёр. Цяжка нават падлічыць, колькі яны далі гораду, раёну, рэспубліцы добрых, талковых спецыялістаў, гатовых у любы час прыйсці на дапамогу хвораму, аблегчыць яго пакуты.**

Праз нейкі час на змену курсам прыйшло медыцынскае вучылішча, якое праіснавала да 1973 года, а затым было закрыта: выпуск спецыялістаў перавышаў попыт. Але час унёс свае карэктывы. З 1987 года ў горадзе зноў сталі рыхтаваць медыкаў. На гэты раз у Маладзечне адкрыўся філіял Мінскага медыцынскага вучылішча №2, які неўзабаве набыў статус самастойнай вучэбнай установы.

Спецыялістаў двюх катэгорый выпускаюць у навучальнай установе: фельчараў-акушэраў і медыцынскіх сясцёр. Акрамя таго, навучэнцы маюць магчымасць атрымаць дадатковую адукацыю на курсах лячэбнага і аздараўленчага масажу, для чаго ў нас ёсць добрая матэрыяльная база. Бо медыцынскае вучылішча сёння – гэта два вучэбныя корпусы, у якіх абсталяваны 24 кабінеты і лабараторыі даклінічнай практыкі, стаматалагічны кабінет, трэнажорная зала. Акрамя таго, яшчэ 7 кабінетаў па спецыяльных дысцыплінах створаны ў лячэбна-прафілактычных установах горада.

З 26-ці нашых выкладчыкаў 22 маюць вышэйшую, першую і другую кваліфікацыйныя катэгорыі, а Людміла Рудзь, Марына Стрэж і наогул працуюць з дня заснавання вучылішча. З вялікім педагагічным майстэрствам вядуць заняткі і Галіна Цімафеенка, Галіна Гембіцкая, Ганна Асанава, Анжаліка Каляда і многія іншыя нашы педагогі на чале з дырэктарам вучылішча Уладзімірам Апаленісам.

Уклад у фарміраванне прафесійных якасцей будучых спецыялістаў уносяць сустрэчы-гутаркі з заслужанымі медыцынскімі работнікамі горада. Міласэрнасці, чуйнасці, адказнасці і цярпенню вучаць навучэнцаў на сваім багатым жыццёвым вопыце Вера Стараселец, Іна Жаковіч, Вольга Філон, Мая Мароз.

Вялікую дапамогу ў арганізацыі практычнага навучання аказваюць вучылішчу і Маладзечанскія гарадское і раённае тэрытарыяльныя медыцынскія аб'яднанні. Больш за 60 спецыялістаў перадаюць свой вопыт моладзі ў якасці выкладчыкаў-сумяшчальнікаў. Не без іх удзелу мы выпусцілі за апошнія дванаццаць гадоў больш за 2 тысячы фельчараў, медыцынскіх сясцёр, зубных тэхнікаў. Многія выпускнікі прадоўжылі адукацыю ў вышэйшых навучальных установах, а частка іх вярнулася ў вучылішча ў якасці выкладчыкаў.

**Ірына АПАЛЕНІС, метадыст медыцынскага вучылішча.**



## Курсы валют НБ РБ

| | 5.06 руб. | 12.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2045,00 | 2050,00 |
| Еўра | 2400,42 | 2399,22 |
| Злоты | 540,36 | 542,11 |
| Літ | 695,22 | 694,94 |
| Расійскі рубель | 66,48 | 67,18 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2030/2039 | 2035/2055 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 4.06 | 11.06 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12200 | 12200 |
| Сасіскі, 1 кг | 4300 | 4300 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Цукар, 1 кг | 1280 | 1240 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 800 |
| Алей, 1 л | 1700 | 1550 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 460 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 750 | 680 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1200 | 1200 |
| Капуста, 1 кг | 800 | 1000 |
| Морква, 1 кг | 1350 | 1300 |
| Лімоны, 1 кг | 2600 | 2500 |
| Апельсіны, 1 кг | 1750 | 1850 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1600 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 2500 |
| Яблыкі, 1 кг | 1750 | 1300 |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## «Прыма» ў схованцы

**АШМЯНЫ. У раёне вёскі Масі на пагранічнай паласе затрымалі вяскоўца з Анцулёў, які перавозіў на кані 11 тысяч пачак цыгарэт.**

Расійскую "Прыму" вясковец спрабаваў даставіць у суседнюю Літву. Цяпер груз на 11 мільёнаў рублёў канфіскаваны ў даход дзяржавы.

**Ірына РАБУШКА.**

## Перавозілі спірт

**АШМЯНЫ. Каля вадасховішча «Альковічы» затрымалі машыну, у якой перавозілі 1400 літраў спірту.**

Машынай кіраваў трэнер-выкладчык з Ашмянскага раёна. Разам ехаў пенсіянер, былы вайсковаслужачы. Гэта быў яго тавар. Судом Ашмянскага раёна спірт на суму прыкладна 8,5 мільёна рублёў канфіскавалі ў даход дзяржавы.

**Ірына РАБУШКА.**

## Падпаліў сябе

**СМАРГОНЬ. Мужчына закрыўся ў кватэры і падпаліў сябе.**

Аб пажары паведамілі суседзі. Маёмасць у кватэры поўнасцю згарэла. Мужчыну ратавалі, і цяпер ён знаходзіцца ў бальніцы. У апошнія дні яго стан палепшыўся.

**Ірына РАБУШКА.**

## Скралі яды

**ВІЛЕЙКА. Трое злачынцаў у ноч з 4 на 5 чэрвеня скралі са склада Вілейскага сортаўчастка ў вёсцы Порса ядахімікаты на 25 мільёнаў рублёў.**

Двое злачынцаў пасля выезду аператыўнай групы РАУС затрыманыя. Удзел у затрыманні прынялі работнікі абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў. Затрыманыя злодзеі – віляйчане.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

 



# Каця стала пераможцай

**ВІЛЕЙКА. Тэлефон ў кватэры не змаўкаў да позняга вечара. З нагоды першай у сваім жыцці перамогі такога кшталту. Яе, медыцынскую сястру Вілейскага раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання, назвалі лепшым маладым спецыялістам года сярод медыкаў раёна.**

Па-розным прыходзяць людзі ў прафесію. Адны выбіраюць яе для сябе яшчэ будучы школьнікамі, іншыя заканчваюць інстытуты і тэхнікумы, у якіх вучыліся яшчэ іх мамы і таты. У сям"і Русакоў медыкаў не было. Каця стала першай, хто прымерыў на сябе белы халат. І нягледзячы на тое, што працуе толькі першы год, можа з упэўненасцю сцвярджаць, што ў выбары прафесіі не памылілася.



Каця Русак прызнаная лепшым маладым спецыялістам Вілейшчыны 2003 года ў медыцыне. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Лёгкай яе работу не назавеш. У кардыялагічным аддзяленні, а менавіта там працуе дзяўчына, заўсёды шмат хворых. І кожны са сваім характарам, са сваімі патрабаваннямі, часам нават капрызамі. Гэта блакітнавокая, крышку сарамлівая медсястрычка ўмее ўлагодзіць кожнага. А ўсё таму, што не скупіцца ніколі ні на добрае слова, ні на цёплую, сардэчную ўсмешку, ад якой бы святлей становіцца ў палатах, дзе заўсёды жыве боль. Дарэчы, да яго, чужога болю, Каця так і не прывыкла. Змагаючыся за чужое жыццё, чужое хворае сэрца, часам нават і не заўважае, як шалёна калоціцца сваё. У такія хвіліны проста стараецца ўважліва слухаць доктара і дзейнічаць зладжана, хутка, каб не згубіць ні хвілінкі каштоўнага часу. Чалавечае сэрца – рэч асаблівая, спыняецца імгненна, "заводзіцца" зноў не заўсёды.

"Я як сёння памятаю свой першы працоўны дзень, – расказвае Каця. – Хвалявалася так, што трэсліся рукі. Хавала іх у кішэнях халата, каб ніхто не бачыў, і ўвесь час баялася, што не спраўлюся. Толькі недарма, відаць, кажуць, што свет не без добрых людзей. Мне пашанцавала на настаўнікаў: цярплівых, уважлівых. Не атрымлівалася, калегі з гатоўнасцю дапамагалі, штосьці было незразумела – падказвалі".

Дарэчы, побач з Кацяй быў калектыў кардыялагічнага аддзялення РТМА і ў час конкурсу. Група падтрымкі, у якую ўвайшлі старшая медыцынская сястра Станіслава Браніславаўна Цікота, а таксама медыцынскія сястрычкі Нэла Наркевіч, Валянціна Ярашонак, Наташа Буданава, Руслана Рабчыч, Святлана Броўка. Хварэў за яе і брат Дзяніс. Больш таго, дапамагаў у час спаборніцтваў па дысмургіі, на ім сястра-медсястра паказвала, як правільна накладваць павязкі.

Пераможцай Кацярыну Русак журы назвала аднагалосна. Яна не толькі набрала найбольшую колькасць балаў, але і сумела заваяваць сімпатыі як гасцей, так і гледачоў. За што атрымала Ганаровую грамату, а ў якасці прыза – фотаапарат. Хочацца, каб здымала дзяўчына ім толькі прыемныя моманты свайго жыцця і працоўнай біяграфіі, якую ёй яшчэ пісаць і пісаць...

**Марына СЛІЖ.**

■ СМІ

## З'езд журналістаў

**6 чэрвеня ў Мінску адбыўся чарговы справаздачна-выбарны з'езд грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў". З'езд пераабраў кіраўніцтва арганізацыі, а таксама прыняў шэраг важных дакументаў. Прэзідэнтам БАЖ засталася Жанна Літвіна.**

Акрамя дэлегатаў, на з'ездзе прысутнічала некалькі дзесяткаў гасцей і запрошаных: разам – 140 чалавек. Сярод прысутных былі кіраўнік упраўлення Міністэрства юстыцыі Міхаіл Сухінін, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Парфяновіч, прадстаўнікі дыпламатычных місій.

З'езд канстатаваў надзвычайнае становішча з мас-медыямі ў Беларусі і запатрабаваў неадкладна скасаваць пазасудовыя рашэнні Міністэрства інфармацыі аб прыпыненні выхаду газет "БДГ", "БДГ. Для служебного пользования", "Навінкі" і "Эхо"; спыніць крымінальны пераслед журналістаў; накіраваць на міжнародную экспертызу праект Закона аб СМІ.

З'езд пастанавіў прыняць новую рэдакцыю Дэкларацыі прынцыпаў прафесійнай этыкі журналістаў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ МЯСТЭЧКІ

# Гарадок не малы і не вялікі

**Гарадок сустрэў нас пустымі вуліцамі і зачыненымі веснічкамі. Не скажаш, што некалі слаўнае мястэчка, цэнтр гандлю, які мог паспаборнічаць з суседнімі Івенцам і Ракавам, сёння перажывае перыяд росквіту. Але гісторыяй гарадчане сапраўды ганарацца. Ва ўсякім разе загадчык мясцовага музея Мікалай Выдрыцкі гэтага не хавае. Ён заўсёды з радасцю паказвае групам наведвальнікаў, а найчасцей гэта дзеці, якія прыязджаюць у мястэчка, чым слаўны Гарадок. І для нас згадзіўся выканаць ролю экскурсавода.**

Гарадок першы раз згадваецца ў 1161 годзе. Кажуць, што раней кожныя 25-30 гадоў выгараў дашчэнту, апошні раз – у час Вялікай Айчыннай вайны. Сёння мясцовае насельніцтва складае каля 500 чалавек.

Галоўная слаўнасць мястэчка – гарадзішча, што ўяўляе сабой авальную пляцоўку, абкружаную ровам, дзе, магчыма, стаяла абаронча вежа, якая была накіравана на захад. Гэта былыя ўладанні полацкіх князёў. Адсюль і назва мястэчка – Гарадок. Яшчэ адно прыгожае месца – царква другой паловы XIX стагоддзя. А да 20-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй на невялікай плошчы быў узведзены помнік. Яшчэ ў мястэчку ёсць сярэдняя школа, дзіцячы сад, бальніца, аддзяленне сувязі, сваё лясніцтва.

Экскурсію па музеі Мікалай Выдрыцкі заўсёды пачынае з гісторыі навакольля. Да 40-х гадоў, як і большасць мястэчак Заходняй Беларусі, Гарадок быў пераважна яўрэйскім паселішчам. Пятро Бітэль, які паходзіць з суседняй Валожыншчыны, вельмі трапна намаляваў карціну заходнебеларускага мястэчка тых часоў:

Амаль няма такое хаты
(тут дзверы ўсе на тратуар),
Каб шыльдай быў
ці менш багатай
Не выхваляла свой тавар,
Які ў дастатку прадаецца,
І скрозь пануе рамяство –
Майстэрняў, розных
крам збярэцца
Ва ўсім мястэчку мо са сто...
У іх нашчадкі Ізраэля
Гандлююць,
шыюць ці куюць, –
Усе заняты, ўсе пры дзеле,
Хоць і не сеюць, і не жнуць.

Неяўрэйскіх сем'яў на той час у Гарадку было, а гэта Мікалай Выдрыцкі падлічыў амаль дакладна, усяго каля 20. Вайна перайначыла не толькі лёсы асобных сем'яў, яна перайначыла дэмаграфічную структуру беларускіх мястэчак, а з ім і цэлы ўклад жыцця местачкоўцаў. Гарадок цяпер хутчэй вялікая вёска, чым невялікі горад, хаця і завецца Гарадком. Аб мінулым гавораць могілкі і старыя будынкі. Побач з музеем стаіць стары але ўнушальны нават былой сваёй дыхтоўнасцю будынак з чырвонай цэглы, з пустымі аконнымі праёмамі, з вялікай шчылінай ў сцяне. "Вось гэтая развaліна была калісьці домам яўрэя-купца," – сказаў Мікалай. Затым будынак прыстасавалі да школы. Цяпер яго перадалі Міністэрству культуры. На жаль, няма сродкаў на яго рэстаўрацыю і выкарыстанне.

Паблізу месцілася сінагога. Затым да 1969 года, пакуль не пабудавалі новы будынак, тут была сярэдняя школа. Сёння – гэта кантора сельскага вытворчага кааператыва.

Гарадок вельмі славіўся вырошчваннем лёну і збожжа, якія вывозілі на продаж за мяжу. Непадалёк захавалася частка тарцовай сценкі, дзе калісьці знаходзіўся склад для захавання лёну. Бліз яе – невялікі хлявок, у якім некалі мясцовыя яўрэі рэзалі курэй. Іўдзейскія законы былі строгімі: на базары куплялі курэй, але самі яўрэі–пакупнікі зарэзаць іх не мелі права. Гэта было абавязкам спецыяльнага чалавека, рэзніка. Разумееце цяпер, адкуль пайшло пашыранае яўрэйскае прозвішча? Далей за тым хлеўчуком была вялікая лазня.



Мястэчка Гарадок на беразе Заходняй Бярэзіны сёння нагадвае больш ціхую вёску. Між тым гэта паселішча мае слаўную гісторыю. Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

На адным падвор'і было па 6-8 хат. Яўрэям забаранялася займацца земляробствам, а толькі рамяством і гандлем, таму і ў агародах патрэбы не было.

Сучасная тэрыторыя музея раней уяўляла сабой бруканую пляцоўку. Сёння тут знаходзіцца адзін з сямі філіялаў Мінскага Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Ідэя яго стварэння ўзнікла ў сярэдзіне 90-х гадоў. З'явілася яна не на пустым месцы. Гарадоччына мае багатую гісторыка-літаратурную спадчыну. Вялікую дапамогу пры стварэнні музея і ў арганізацыю яго работы ўнёс Аляксандр Мазанік, які тады быў адказным сакратаром раённага аддзялення таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры на Маладзечаншчыне.

А Мікалай Выдрыцкі спачатку працаваў у школе настаўнікам беларускай і рускай моў, з ліпеня 1994 года стаў старшым навуковым супрацоўнікам музея, а летась – яго загадчыкам. Сёння ўся адказнасць за музей ляжыць на Мікалаі: навуковая, арганізацыйная, гаспадарчая праца. Значная частка музейных экспанатаў перайшла сюды з уласнага збору яго загадчыка.

Экспазіцыя пачынаецца з невялікай калекцыі фотаздымкаў Гарадоччыны, якія зрабіў сам Мікалай Выдрыцкі. Там і царква, і вадзяны млын, і карціны прыроды. А побач – продкі сучаснай электронікі, – жалезны прас, серп, карыта, бязмен, чыгунок і іншыя рэчы.

У музеі тры залы. У першай знаходзяцца найбольш старажытныя рэчы – знойдзеная ў мястэчку кераміка, сякера. Там фотаздымкі беларускіх сялян, па якіх можна вывучыць іх адзенне, кнігі па гісторыі з нарысамі аб Гарадку і фотаздымкі ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. У другой зале вельмі разнастайныя экспанаты: грошы былых часоў, калаўрот, кросны, даўнішняе адзенне, патэфон, прадметы ранейшага побыту. Трэцяя, заключная, зала поўнасцю літаратурная. У ёй знаходзяцца здымкі, працы і інфармацыя пра сяброў музея, літаратараў, якія былі ў Гарадку. Напрыклад, Янка Купала, які, магчыма, у 1919 годзе наведваў дзяцей-сірот у мястэчку, Іван Козел, драматург, што нарадзіўся каля Краснага і пабываў у Гарадку. Згадваюцца і сённяшнія пісьменнікі. Іван Галубовіч (Янка Баравы), член Саюза пісьменнікаў Беларусі, які жыве ў Маладзечне, у 1954-1957 гадах вучыўся ў Гарадоцкай сямігадовай школе.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

 

# Любоў нічым не заменіш

**У сям'і смаргонцаў Вольгі і Уладзіміра Рашкевічаў выхоўваецца шасцёра дзяцей. Пяцёра з іх – прыёмныя.**

Праўда, назваць іх народнымі цяжка, бо ў гэтай сям'і дзеці адчуваюць сапраўднае бацькоўскае цяпло. Уладзімір Леанідавіч працуе настаўнікам фізкультуры ў шостай школе Смаргоні. Вольга Паўлаўна – выхавальніца, актыўна займаецца грамадскай работай, яна член савета Смаргонскага грамадскага аб'яднання шматдзетных бацькоў.

...Звычайны будзённы вечар, мікраараён Карані, я знаходжу неабходны дом і кватэру. На званок дзверы адчыняе маці сямейства, а з розных пакояў выбягаюць дзеці і гучна вітаюць. Яны яшчэ зусім маленькія. Агульную мову знаходзім проста і лёгка. З маленькіх дзіцячых вуснаў час ад часу зляцае слова "мамачка". Мы сядаем на канапу, і я прашу расказаць, як усё пачыналася.

– Гэта было сем гадоў таму. У нас ужо была дачушка Ірынка, – успамінае Вольга Паўлаўна. – Аднойчы па тэлевізары мы пачулі інфармацыю пра дзяцей–сірот. Усіх жадаючых вядучы праграмы запрашаў на дзень адчыненых дзвярэй, здаецца, у Аршанскую школу–інтэрнат.

Наша суседка па дачы працуе выхавальніцай у школе–інтэрнаце, яна расказала нам, што і ў Смаргоні выхоўваюцца маленькія дзеці. Тады я цвёрда вырашыла схадзіць у школу–інтэрнат...

Да нас у сям'ю прыйшлі адразу двое дзяцей – Саша і Наташа, брацік з сястрычкай. У іх памерлі бацькі. Наташы тады было тры с паловай гады, а Сашу – два годзікі. Маленькі Саша адразу пайшоў да мяне на рукі і "мамай" назваў. Прывыкаць да новых членаў сям'і было не цяжка, яны неяк хутка ўвайшлі ў нашу сям'ю.



Вольга і Уладзімір Рашкевічы выхоўваюць шасцярых дзяцей. Фота Галіны АНТОНАВАЙ.

– Я таксама вельмі хацела брацiка і сястрычку, – дадала Іра, – і была вельмі рада, калі з'віліся Саша і Наташа.

– Пасля з'явіўся Андрэйка, яму зараз сем год, – прадаўжае свой аповяд Вольга Паўлаўна, – на той момант ён знаходзіўся ў прытулку сацыяльна–педагагічнага цэнтра. Крыху пазней з намі сталі жыць Саша з Дзімам. Саша вельмі цяжка прывыкаў, яго забралі ад мамы, якая не вельмі за ім даглядала і нават прымушала яго красці. Цяпер, здаецца, усё нармальна. Ён адаптаваўся.

– Якім чынам вам удаецца падтрымліваць парадак у доме?

– Стараемся прывучаць дзяцей да самастойнасці. Саша, Наташа і Іра ведаюць, што ў іх абавязкі ўваходзіць прыбраць на кухні, яны мыюць посуд, выносяць смецце. А малодшыя ім дапамагаюць. Дзіма ў нас пакуль як кароль на імянінах – усе за ім даглядаюць, таму яму хочацца заставацца маленькім.

(Калі я пацікавілася ў Дзімы, колькі яму год, ён адказаў: "Тры". Хаця на самой справе чатыры –аўт.)

– Як вы бавіце вольны час?

Адказваюць усе:

– Усе разам ходзім на дачу. У нас ёсць гаспадарка, агарод. Летам часта ездзім адпачываць на Вілію. Летам ходзім на стадыён. Наш тата – вялікі аматар футбола. Бяром свой столік, крэселкі, на траўцы сядзім, салодкае ядзім, пакуль тата за гульнёй сочыць.

Кожную раніцу разам робім зарадку, бегаем па вуліцы, пасля прыходзім дадому – тата нас халоднай вадой абліваe. А вечарам, калі зробім урокі, усе разам гуляем з канструктарам.

У кожнага ёсць і свая любімая справа. "Іра камп'ютэрам захапляецца: спецыяльна купілі камп'ютэр, вырашылі, што у будучым ён спатрэбіцца дзецям", – заўважыла Вольга Паўлаўна. Наташа на баскетбол ходзіць, Саша займаецца на харавым аддзяленні па класе фартэпіяна. Андрэй – аматар малявання. Другі Саша вельмі любіць маме на кухні дапамагаць. Дзіма пакуль яшчэ не вызначыўся з любімым заняткам. Яму ўсё цікава.

Канечне, мне было цікава даведацца, ці помняць дзеці тыя часы, калі яны жылі ў іншым месцы. Малодшыя адмоўна пакруцілі галавой. А Наташа адказала: "У інтэрнаце мне было сумна, і мамы таксама не было".

На пытанне, чаму Вольга Паўлаўна і Уладзімір Леанідавіч рашылі ўзяць чужых дзяцей на выхаванне, былі наступныя адказы:

Мама: Цяжка адказаць, гэта як знак з неба. Мы не проста так бяром дзяцей на выхаванне. Наступае момант, калі я разумею, што гэта неабходна зрабіць, і тады ў нас у доме з'яўляецца яшчэ адно дзіця.

Тата: "Чтобы не было мучительно больно за бесцельно прожитые годы". Я лічу, што ў дзецях заключаецца сэнс чалавечага жыцця. Упэўнены, чым больш дзяцей будзе расці ў сем'ях, тым яны будуць дабрэйшыя, яны не будуць думаць толькі пра сябе, і іх будучыя сем'і будуць лепшыя, крапчэйшыя.

Узяць на выхаванне першых дзяцей мяне ўгаварылі мае жанчыны – жонка і дачка. Дый мяне цягнула заўсёды да дзяцей. Магчыма, бацькоўскія гены перадаліся: мае бацькі – педагогі, але мяне ў педагагічны інстытут не пусцілі, запэўнілі, што работа вельмі нервовая. Я законччыў тэхналагічны, працаваў на заводзе, але лёс распарадзіўся, што я стаў і педагогам, і шматдзетным бацькам.

– Ёсць верагоднасць, што ў будучым ваша сямейства папоўніцца?

– Не выключаецца і такое, праўда, не заўтра і паслязаўтра, пакуль трэба паставіць на ногі гэтых дзетак.

Гаворачы, што мацярынскай любві ніхто не заменіць. Пабываўшы ў сям'і Рашкевічаў, я стала моцна ў гэтым сумнявацца. Прынамсі, да гэтай сям'і падобнае сцвярджэнне не адносіцца.

**Галіна АНТОНАВА.**

■ ВЫНІКІ ДАСЛЕДАВАННЯ

# Сацыяльнае здароўе смаргонскай сям'і

**Сёлетняй вясной спецыялістамі Смаргонскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва "Цёплы дом" праводзіліся сацыялагічныя даследаванні. Анкетаванне праводзілася сярод рабочых і служачых некалькіх найбольш буйных прадпрыемстваў і арганізацый горада. Збіралася інфармацыя аб структуры сямей, наяўнасці і характары іх праблем.**

Высветлілася, што сярэдні ўзрост жыхароў горада і раёна, якія працуюць на прадпрыемстве, 38-40 гадоў. Большасць апытаных знаходзіцца ў шлюбе ад 15 да 20 гадоў. Доля маладых сем'яў (да 5 год сумеснага жыцця) склала 8%. Асноўнай крыніцай даходу большасці з'яўляецца заработная плата.

Сваё матэрыяльнае становішча рэспандэнты ацанілі наступным чынам: як крытычнае (грошай хапае на задавальненне элементарных патрэб) – 20,5% апытаных; як цяжкае (грошай на харчаванне ледзь хапае) – 24% апытаных; як нестабільнае (прыходзіцца адмаўляць сабе ў прамысловых таварах) – 55%. І толькі 0,5% апытаных лічаць свой матэрыяльны стан стабільным і могуць ні ў чым сабе не адмаўляць.

У сем'ях, якія маюць дзяцей




да 18 гадоў, бачна тэндэнцыя да перавагі сем'яў з адным дзіцем. Расце колькасць сем'яў, якія не маюць ніводнага дзіцяці. У сем'ях, якія маюць паўналетніх дзяцей, назіраецца яўная перавага сем'яў з двума дзецьмі. Маладым сем'ям прапанавалася адказаць на пытанне аб жадаемай колькасці дзяцей у сям'і. 68% апытаных адказалі, што хацелі б мець дваіх дзяцей. Даволі вялікі працэнт сем'яў, якія наогул не жадаюць мець дзяцей. Сваю пазіцыю яны тлумачаць немагчымасцю забяспечыць іх матэрыяльна. Такім чынам, бачна тэндэнцыя да змяншэння дзяцей ў сям'ях.

Для функцыяніравання сям'і важны яе мікраклімат. Дадзеныя аб размеркаванні дамашніх абавязкаў гавораць аб наступным: 70% апытаных лічаць, што вядзеннем хатніх спраў павінна займацца жонка, але галоўнай у сям'і яе лічаць толькі 37%; 7% апытаных лічаць, што галоўныя ролі ў роўнай ступені размяркоўваюцца паміж мужам і жонкай, і 1,2% апытаных лічаць галоўнай у сям'і свякроў (цешчу).

Узровень канфліктнасці ў сем'ях адносна невысокі: часта сварацца – 16%, бывае, сварацца – 76%, жывуць без канфліктаў – 8%. 72% апытаных сказалі, што прычынай узнікнення канфліктаў паслужылі матэрыяльныя цяжкасці. У 76% апытаных цёплыя і добрыя адносіны з дзецьмі, значыць, мікраклімат большасці сем'яў Смаргоні спрыяльны для выхавання здаровых і паспяховых дзяцей. Хаця цалкам могуць рэалізаваць свае магчымасці і здольнасці, атрымаць падтрымку і дапамогу ў сям'і 63% апытаных. 32% лічаць, што члены сям'і абыякавыя да іх прафесійных поспехаў і дасягненняў; 5% апытаных лічаць, што члены сям'і перашкаджаюць іх прафесійнай кар'еры і самарэалізацыі. Гэта гаворыць аб існаванні скрытых канфліктаў і неабходнасці дапамогі сем'ям у іх вырашэнні.

Зыходзячы з дадзеных, большасць сем'яў стараецца праводзіць выхадны дзень на свежым паветры. Калі ўлічыць, што з найбольш важных жыццёвых каштоўнасцей большасць апытаных (89%) назвалі здароўе, то можна казаць аб станоўчым падыходзе да здаровага ладу жыцця.

Што тычыцца пытання задаволенасці шлюбам, варта адзначыць, што жонкі больш патрабавальныя да якасці шлюбу, і таму іх ацэнкі сямейнага жыцця менш аптымістычныя, чым у мужчын. Калі толькі 61% жанчын лічаць свай шлюб удачным, то мужчыны складаюць 85%. 78% апытаных лічаць, што іх шлюб заключаны па каханні, але толькі 43% лічаць сябе шчаслівымі людзьмі. Магчыма, астатнія, якія лічаць сябе нешчаслівымі ў шлюбе, ці не маглі захаваць каханне, ці для іх каханне – толькі нязначная частка вялікага шчасця, якое да іх так і не прыйшло.

Уяўляючы сваю сям'ю ў будучыні, большасць апытаных (73%) лічаць, што ў іх сям'і будзе панаваць узаемаразуменне і гармонія, увага з боку дзяцей і ўнукаў. Гэта гаворыць аб тым, што многія жывуць верай у лепшую будучыню і складаюць аптымістычныя прагнозы адносна сямейнага жыцця.

Рэспандэнтам прапаноўвалі ўказаць некалькі паняццяў, якія ўяўляюць найбольшую каштоўнасць у іх жыцці: сям'я – 90% апытаных, здароўе – 89%, матэрыяльны дабрабыт – 69% апытаных.

Ёсць упэўненасць у тым, што для жыхароў Смаргоні, стварэнне і захаванне сям'і стане асноўнай мэтай іх жыцця.

У выніку анкетавання меркавалася зрабіць вывады аб структуры сямей і ўзроўню выканання іх функцый, аб наяўнасці і характары праблем сям'і для аказання ім дапамогі і падтрымкі. Але вопыт работы паказвае, што ўмацаванне сям'і павінна ажыццяўляцца не толькі праз сістэму сацыяльнай абароны, але і праз развіццё ўнутраных рэсурсаў самой сям'і, якая павінна выкарыстоўваць усе існуючыя магчымасці, увесь свой патэнцыял, павінна весці здаровы лад жыцця, займацца выхаваннем дзяцей, клапаціцца аб матэрыяльным дабрабыце.

**Аксана КУЗЬМІЧ, сацыёлаг. Святлана НОРЫК, спецыяліст ТЦСАН "Цёплы дом".**

# Што дасць Еўрасаюз Польшчы

**У мінулыя выхадныя ў Польшчы адбыўся рэферэндум аб уваходжанні краіны ў Еўрапейскі саюз. У галасаванні прыняло ўдзел 58,85% грамадзян, якія маюць права голасу. "Так" Еўрасаюзу сказалі 77,45% тых, хто прыняў удзел у галасаванні, "не" – 22,55%. Згодна з заканадаўствам, Польшча ўвойдзе ў Еўрасаюз. Дзень старту – 1 мая 2004 года. Чакаць засталося нядоўга. І ўжо сёння практычныя палякі падлічваюць, што атрымаюць ад уваходжання Польшчы ў Еўрасаюз.**

– Так як калісьці Іспанія, Грэцыя і Партугалія, так цяпер мы, – піша 9 чэрвеня аглядальнік польскай "Газеты выборчай" **Конрад НІКЛЕВІЧ,** – пераканаемся, што ўваходжанне да Еўрасаюза пераменіць эканамічнае жыццё нашай краіны. У лепшы бок.

Няма чаго сябе ашукваць: гонка за еўрапейскім дабрабытам зойме ў Польшчы гады. Аднак цяпер, дзякуючы ўласнаму рашэнню, даведаліся хаця б дату, ад якога часу пагоня за Еўропай набярэ шпарчэйшага тэмпу – гэта будзе 1 мая 2004 года, у дзень уваходжання Польшчы ў Еўрасаюз.




**Польшча зрабіла свой выбар. У беларуса таксама ён пакуль ёсць. Што лепш?**

Рысунак Валерыя ЧУГЛАЗАВА.

**Сёння дзяржаўны кансалідаваны бюджэт (ДКБ) Польшчы складае 40% сярэдняга паказчыка па саюзу. У 2011 годзе зможам дасягнуць паловы сярэдняга значэння. Узровень жыцця палякаў і немцаў практычна зраўнаецца – як падлічылі эканамісты – дзесьці паблізу 2040 года.**

Гэта няскора. Аднак калі б палякі ў мінулыя выхадныя сказалі Еўрасаюзу "не", Захад бы мы не дагналі б ніколі. А дзесьці каля 2030 года – так падлічылі няўрадавыя эканамісты – нас бы абагналі Румынія і Балгарыя.

Уваходжанне да Еўрасаюза будзе звязанае з узрастаннем інвестыцый (на 12–14 працэнтаў штогод) і konsumpcji (каля 4 працэнтаў штогод). У 2005 – 2007 эканамічны ўзрост перавысіць 5% ДКБ, а інфляцыя ніколі (у паўвекавой перспектыве) не павінна перавысіць 4 працэнты.

Для большасці польскіх прадпрыемстваў інтэграцыя з еўрасаюзаўскімі стандартамі і нормамі ёсць у прынцыпе фактам, які адбыўся, бо польскае права ўжо шмат год як узгодненае з еўрасаюзаўскім. Але ўжо цяпер польскія прадпрымальнікі змогуць карыстацца з таго, што найкаштоўнейшае ў саюзе: адсутнасці якіх бы тое ні было перашкод у гандлі.

### І для фірм...

Прынятае права Еўрасаюза гарантуе стабілізацыю (між іншым, у падатку на дабаўленую вартасць, акцызах), а, магчыма, ужо хутка – таксама у падатку з даходу ад юрыдычных асоб. Пасля некалькіх гадоў залатоўка будзе заменена на еўра, дзякуючы гэтаму знікне курсавая рызыка, знізяцца аплаты за банкаўскія трансферы, а прадпрымальнікі будуць мець доступ да дзешавейшых крэдытаў.

Уваходжанне ў Еўрасаюз азначае ўрэшце для фірм доступ да саюзных структурных фондаў. Малыя і сярэднія фірмы могуць разлічваць на гранты і датацыі, прызначаныя на падтрымку экспарту, інвестыцыі і да т.п. У першыя тры гады членства Польшчы ў ЕС структурныя датацыі для прадпрыемстваў складуць да 1,7 мільярда еўра. Саюзныя грошы ў вялікай сваёй частцы будуць прызначацца на суфінансаванне коштаў дастасавання польскіх фірмаў да саюзнага права, якога яшчэ няма ў польскім заканадаўстве: больш строгіх экалагічных нормаў, правілаў бяспекі працы. У часе перагавораў польскім дыпламатам удалося атрымаць пераходны перыяд, напрыклад, капітальныя рамонты аўтазаправачных станцый могуць пачакаць да 2006 года.

Адным словам, не будзе хвалі банкрутстваў. Цэны не будуць скакаць угару з дня на дзень. Не пагражае нам масавы выезд палякаў на заробкі ў іншыя краіны.

### ... і для сялян

Сяляне – гэта тая сацыяльная група, якая найшыбчэй атрымае адчувальную карысць ад уваходжання ў ЕС – хаця яны найбольш асцерагаліся інтэграцыі (і надалей асцерагаюцца). Іхнія даходы дзякуючы даплатам з года на год будуць павялічвацца.

Членства ў саюзе – гэта рэвалюцыя для самакіраўніцтваў, мясцовых і ваяводскіх улад. Першы раз у гісторыі яны атрымаюць доступ да практычна неабмежаваных (бо гаворка аб мільярдах еўра) сродкаў на інвестыцыі у ахову асяроддзя, будаўніцтва дарог, мастоў, змаганне з беспрацоўем, навучанне работнікаў. Гэтыя грошы, зразумела, не ляжаць на вуліцы: каб іх атрымаць, самакіраўніцтвы павінны зрабіць свой уклад (што для многіх азначае неабходнасць улезці ў даўгі), да таго ж падрыхтоўка праектаў і прапаноў аб датацыях вельмі працаёмкая штука. Альтэрнатывай, якая б вынікала з неўваходжання Польшчы ў Еўрасаюз, была б абсалютная адсутнасць гэтых грошай. Уваходжанне ў Еўрасаюз дазволіць вельмі істотна знізіць кошты рэструктурызацыі рэгіёнаў і процістаяць найбольш вострым праяўленням крызісу – напрыклад, беспрацоўю.

Калі застацца па–за ЕС, то больш павольным бы быў працэс лібералізацыі, таму б зніжэнне цэн на энергію, тэлекамунікацыйныя і транспартныя паслугі было б меншым.

Калі Польшча скарыстае ў 2004–2006 гадах (на думку эканамістаў – найбольш цяжкіх) усе гарантаваныя ёй структурныя датацыі, баланс інтэграцыі будзе станоўчым – у плюсе 22 мільярды злотых (каля 5 мільярдаў еўра – А.М.)

Аднак увага! Толькі частка тых грошай пойдзе ў дзяржаўны бюджэт. Значная частка саюзных трансфераў трапіць на рахункі сялян, самакіраўніцтваў, прадпрыемстваў і г.д. Цэнтральны бюджэт, абцяжараны ўнёскамі ў саюзны бюджэт, можа аказацца плацельшчыкам, г. зн., больш даваць, чым браць. Аднак гэта толькі цэнтральны бюджэт!

Польшча як цэлае, нават пры тым, калі не скарыстае з усіх структурных датацый, усё адно будзе больш атрымліваць, чым аддаваць. Калі скарыстаем ад 70–ці да 80–ці працэнтаў фондаў (сярэдні паказчык па саюзе) – то ў плюсе будзем мець ад 12 да 17 мільярдаў злотых (ад 2,7 да 3,8 мільярда еўра – М.Г.) – і гэта толькі ў першыя тры гады.

### А што для звычайнага паляка?

Адсутнасць гандлёвых перашкод, структурныя датацыі, уводзенне саюзнага права – гэта ўсё зменіць жыццё палякаў. Але такія змены часам цяжка заўважыць: напрыклад, шматлікія вадзіцелі не будуць ведаць, што за новую дарогу, па якой яны едуць, заплаціў бюджэт ЕС.

Аднак будуць змены, якіх сярэднестатыстычны паляк проста не зможа не заўважыць. Адна з іх – магчымасць свабоднага падарожнічаць, магчымасць пасялення і працаўладкавання на тэрыторыі ўсіх краін Саюза. Калі ў Польшчы стане правамоцным Шэнгенскі дагавор (магчыма, у 2006 годзе), знікне пагранічны кантроль паміж намі і Германіяй. Без кантролю – праз брамку са сцягам Еўрасаюза – будзем праходзіць таксама, калі будзем ляцець самалётам у краіны Еўрасаюза.

Самае позняе праз сем год, а найраней ад мая 2004 года (у залежнасці ад краіны) палякі таксама змогуць легальна працаўладкоўвацца ў адной з краін Саюза. Нас баіцца Германія, аднак Вялікабрытанія, Іспанія, Францыя, Швецыя, Галандыя, Ірландыя і Грэцыя сцвярджаюць, што польскія работнікі могуць прыязджаць адразу.

Уваходжанне ў Еўрасаюз азначае для польскіх вучняў і студэнтаў цалкам новыя магчымасці навучання за мяжой. Па–першае, палякі будуць трактаваныя як любыя іншыя грамадзяне краін ЕС. Навучанне ў дзяржаўных установах бясплатнае ў ва многіх краінах Саюза, такіх, як Францыя, Германія, Данія, Грэцыя. У некаторых ёсць толькі так званая адміністрацыйная аплата. Знікнуць візавыя фармальнасці, якія сёння пры выездзе ў большасць краін на працягласць большую за тры месяцы яшчэ неабходныя. Для навучання за мяжой неабходна будзе толькі польская сярэдняя адукацыя.

### А што з цэнамі?

Сцвярджэнне, што з уваходжаннем у ЕС наступіць гвалтоўны ўзрост цэнаў, гэта адна з найлюбшых страшылак еўраскептыкаў. Але ніякай рэвалюцыі не будзе. Польская эканоміка інтэграваная ў эканоміку Саюза, большасць пераменаў ужо адбылася. Найлепшы прыклад – прамысловыя тавары: пошлін на іх няма даўно, уваходжанне ў Саюз тут нічога не зменіць.

Толькі некаторыя прадукты з цягам часу будуць пакрысе даражэць. Выключэннем стануць цыгарэты – яны падаражэюць аж на 55 працэнтаў, аднак гэтае павышэнне будзе расцягнута да 2007 года. Іншыя тавары і паслугі будуць наадварот таннець: напрыклад, паслугі тэлекамунікацыі, газ і электрычнасць.

Што з жывёльнымі прадуктамі? Некаторыя, такія, як ялавічына, могуць падаражаць – іхняя цана на рынку Пятнаццаткі большая за польскую. Магчымае аднак зніжэнне цэн на збожжа (з прычыны прамых даплат); не зменяцца хутчэй за ўсё цэны на свініну – мы ўжо на еўрапейскім узроўні. Таннейшымі будуць гарбата, кава, какава. Падзешавеюць алкагольныя напоі, крыху могуць падрасці цэны на цукар. Аднак неабходна падкрэсліць: ніхто нам не будзе ўстанаўліваць цэны. Устанаўлівае іх рынак, які, дзейнічаючы паводле сваіх правілаў, патрапіць іх карэктаваць.

**Падрыхтаваў Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

■ **СЛУЖБА «01»**

# Пажаранебяспечны перыяд

**МАЛАДЗЕЧНА. З наступленнем нават невялікага пацяплення ў пажарных аварыйна-выратавальных падраздзяленняў раёна прыбаўляецца работы. Колькасць пажараў рэзка павялічваецца.**

У летні час любая неасцярожнасць з агнём, дзіцячае свавольства ці бяспечнасць курыльшчыка могуць прывесці да знішчэння зялёных насаджэнняў (лесапасадака, прыдарожныя палосы), лясных масіваў, тарфянікаў, гаспадбудоў, жылых дамоў, а бывае, і гібелі людзей.

Памятайце, што ў пажаранебяспечны перыяд катэгарычна забараняецца:

– прадпрыемствам, арганізацыям, прыватным асобам паліць сухую траву, іржышча, салому на палях;

– разводзіць кастры ў лясах, на тарфяніках, у месцах адпачынку, лесапарках, у непасрэднай блізкасці да будынкаў, збудаванняў, аўтамабільных дарог;

– выязджаць у лес і на тарфянікі на аўтамататрактарнай тэхніцы, якая не абсталявана іскрагасільнікамі.

Вадзіцелі і пасажыры транспартных сродкаў, не выкідвайце не затушаныя цыгарэты і запалкі з вокнаў сваіх аўтамабіляў, трактароў і іншай тэхнікі. Паляўнічыя, будзьце ўважлівымі, калі карыстаецеся пыжамі з такіх матэрыялаў, як папера, вата, пакулле. Часта менавіта гэта з'яўляецца прычынамі пажараў у лясах.

Статыстыка паказвае, што 99% пажараў у лясах і на тарфяніках адбываецца па віне чалавека з-за яго неасцярожнага абыходжання з агнём. Пажары наносяць непапраўную шкоду экалогіі: згарае драўніна, ягаднікі, гінуць насельнікі лясоў і балот, на працягу некалькіх гадоў на пажарышчы нічога не расце.

Усе ведаюць, што тушэнне пажараў – гэта цяжкая праца людзей, прыцягненне вялікай колькасці рознай тэхнікі, вялікія матэрыяльныя затраты. Таму будзьце асцярожнымі і ўважлівымі з агнём. У выпадку, калі станеце відавочцам ўзнікнення пажару, тэрмінова паведамляйце аб гэтым у пажарную аварыйна-выратавальную службу, кіраўнікам прадпрыемстваў, арганізацый і гаспадарак, прымайце меры па тушэнні пажару пярвічнымі сродкамі пажаратушэння (пясок, вада, вогнетушыльнік).

**Андрэй РАБЕЦ.**



**Агонь – небяспека для ўсяго жывога.**

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Дзе адпачываць дзецям?



**Віталь Баркоўскі, школьнік, Ашмяны:**

— У загарадных лагерах. Там лепш, чым у горадзе. Прырода. Хлопцы мне расказвалі, а сам ніколі не быў. Бацькам дапамагаю. Няма часу адпачываць.



**Сяргей Хадасевіч, дырэктар дзіцяча-юнацкага спартыўнага клуба "Сакура", Маладзечна:**

— У загарадных летніках. Змена абстаноўкі, але застаецца дзіцячы калектыў і выхаванне ў ім. Дзеці закаляюць дух і цела. У адрозненне ад ранейшых летнікаў, у сучасных больш разнастайная праграма вольнага часу дзяцей. Спартыўныя летнікі ўвогуле раней былі рэдкасцю.



**Ірэна Зянкевіч, сакратарка, Ашмяны:**

— Дома. Калі хочаш падымайся, калі хочаш кладзіся спаць. Загарадныя і школьныя лагеры для тых, каму няма куды дзіця дзець. Маім дзецям яны не падабаюцца. Аднойчы старэйшую дачку адправіла ў загарадны лагер, толькі некалькі дзён там прабыла.



**Тамара Войніч, выхавацелька, дзіцячы сад №11, Маладзечна:**

— У летніках, толькі не школьных. Там менш насычаная праграма па аздараўленні і забавах. Сваіх дзяцей, калі былі малыя, заўсёды аддавала ў загарадныя летнікі. Падабалася, што можна раскрыць свае здольнасці. І цяпер успамінаюць.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

# Дайце работу, хачу працаваць!

**ВІЛЕЙКА. Да самастойнасці ў наш час дзеці імкнуцца рана. Іншая справа, якім макарам яны яе сабе заваёўваюць. Цыгарэтай, выкуранай пры бацьку, ці першым самастойна зробленым і аддадзеным у сямейны бюджэт рублём. Цяжка сёння назваць сям"ю, у якой ён быў бы лішнім. Таму, напэўна, і стараюцца старшакласнікі, навучэнцы мясцовых ПТВ у час летніх канікул падзарабіць.**



Абрыдла мне без спраў сланяцца.

ФотаІREX/ProMedia.

Нялёгка працаўладкавацца ў Вілейцы, дзе шукаюць работу 737 афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных. І калі раённы цэнтр занятасці насельніцтва не заўсёды можа дапамагчы мамам і татам, то стараецца пайсці насустрач хаця б іх дзецям. У мінулым годзе на час летніх канікул тут працаўладкавалі 140 падлеткаў. Аб'яднаўшыся ў будаўнічыя брыгады, яны шчыравалі ў школах раёна, дзе даводзілі да ладу, фарбавалі і «пераапраналі» ў новыя шпалеры як калідоры, так і класныя пакоі.

Фінансы на закупку будаўнічых матэрыялаў, а сума гэта склала 18 мільёнаў рублёў, выдаткавалі ім з фонду занятасці. Ён жа налічваў і заработную плату. За тры тыдні працы ў рамонтна-будаўнічай брыгадзе асобныя юнакі і дзяўчаты атрымалі па 50-60 тысяч рублёў. Плюс да ўсяго, многаму навучыліся. Узяўшы на ўзбраенне вопыт мінулых гадоў, не супраць яны ўзяцца за работу і сёлета. Пачынаючы з мая, старшакласнікі і навучэнцы ПТВ бясконцым патокам ідуць у цэнтр занятасці. Добры "бацька" на гэты раз гатовы дапамагчы далёка не ўсім. Расказвае дырэктар Валянціна Валатовіч: "Сёлета рамонтна-будаўнічыя брыгады будуць створаны толькі ў чатырох школах: Вязынскай, Хаценчыцкай, Куранецкай і СШ №4 Вілейкі. Задзейнічаем і асобных навучэнцаў ПТВ-200, ПТВ-48, а таксама ліцэя. У агульнай колькасці часова працаўладкаванымі акажуцца 90 чалавек. Вядома, астатнія падлеткі будуць хвалявацца. Але як бы мы ні стараліся, сітуацыю не зменіш. Цэнтр занятасці мае ў распараджэнні толькі сем мільёнаў рублёў. Пры сённяшніх цэнах на будматэрыялы на іх не разгуляешся, а яшчэ ж работнікам, акрамя ўсяго таго, трэба заработную плату плаціць".

Каб не пакінуць падлеткаў сам-насам з праблемай, спецыялісты службы занятасці разаслалі пісьмы-хадайніцтвы з просьбай часова працаўладкаваць дзяцей ва ўсе прадпрыемствы, арганізацыі горада. Адказы кіраўнікоў не абнадзейваюць: работы няма. Таму тым, хто не трапіў у члены рамонтна-будаўнічых брыгад, прапаноўваюць, у якасці альтэрнатывы, працу ў падшэфных калгасах. Некаторыя юнакі і дзяўчаты не супраць падсобіць гаспадаркам як у праполцы буракоў, так і на збожжатаках, сенакосах. Галоўнае – каб грошы плацілі.

**Марына СЛІЖ.**

■ РЫНАК ПРАЦЫ

## Замінае ўзрост

**МАЛАДЗЕЧНА. Менш за 10% ад усіх школьнікаў, якія хочуць працаваць летам, уладкуецца на гарадскія прадпрыемствы.**

Не кожны кіраўнік рашыцца ўзяць на работу падлетка. 14-16-гадовыя юнакі і дзяўчаты абмежаваныя сваім узростам.

Між тым дзяржаўны фонд занятасці выдзеліў 16,6 мільёна рублёў на пабочную занятасць падлеткаў. Гэта ўдвая менш, чым летась. Грошы ідуць на выплату заработнай платы, закупку матэрыялаў, сыравіны, інвентару.

35 чалавек працуюць на гарадскіх прадпрыемствах . Яны ўладкаваліся рабочымі без спецыяльнасці і выконваюць дапаможныя работы. І цяпер падмятаюць, фарбуюць на «Электрамодулі», фабрыцы музычных інструментаў, харчовым камбінаце. 16 чалавек рамантуюць кнігі ў гарадской бібліятэцы. У СШ №№ 6, 7, 10, 11, вячэрняй школе, цэнтры пазашкольнай работы, ПТВ №78 стварылі будаўнічыя брыгады. Падлеткі рамантуюць свае навучальныя ўстановы. Летась такія брыгады былі ва ўсіх школах, акрамя СШ №14, якая яшчэ будавалася. У СШ №7, ПТВ №135 працуюць швейныя брыгады. Школьнікі шыюць бялізну для дзіцячага сада, навучэнцы - для дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтра.

За працоўныя летнія вакацыі падлеткі атрымаюць па 40-60 тысяч рублёў. Для іх гэта грошы.

**Ірына РАБУШКА.**

## «Натуральная» зарплата дзецям

**АСТРАВЕЦ. Мясцовым прадпрыемствам дзіцячая праца не патрэбная. Апошні раз на лета іх бралі 6 гадоў таму.**

Раённы цэнтр занятасці насельніцтва (РЦЗН) працаўладкаваў 60 школьнікаў у СШ №№ 1,2, Гудагайскую СШ. Перавагу аддалі дзецям з малазабяспечаных і праблемных сем'яў. Дзеці займаюцца будаўніча-рамонтнымі работамі.

Для 14-16-гадовых рабочы дзень доўжыцца 4 гадзіны, ад 16 гадоў - 6 гадзін пры 5-дзённым рабочым тыдні. Летась дзеці ездзілі на праполку ў мясцовыя гаспадаркі. Дырэктар РЦЗН Людміла Бандарык гаворыць, што і цяпер цэнтр занятасці можа гэта арганізаваць. Толькі абавязкова, каб пагадзіўся дарослы, напрыклад, хто-небудзь з бацькоў, наглядаць за падлеткамі. За адну сотку зямлі плацяць паўтары тысячы рублёў. Але часцей натуральнымі прадуктамі, накшталт збожжа, мукі, мяса, тушонкі.

Дзяржаўны фонд садзейнання занятасці выдзеліў 5 мільёнаў рублёў, што на 1 мільён больш, чым летась, на пабочную занятасць падлеткаў. 30-40% пойдзе на набыццё неабходных для працы матэрыялаў, астатнія - на выплату заработнай платы.

**Ірына РАБУШКА.**

## Лета звонкае, гаманлівае, будзь са мной

**АШМЯНЫ. Не знойдзеш, напэўна, сёння школьніка, які б не радаваўся канікулам, сонцу і цяплу. Для дарослых жа, гэта самая клопатная пара. Трэба вызначыць праграму-мінімум на летні час і пастарацца аздаравіць як мага больш дзяцей.**

З першых дзён чэрвеня адкрылі свае дзверы школьныя лагеры адпачынку на Ашмяншчыне. У гэтым годзе іх будзе дваццаць, прычым у летніках з дзённым знаходжаннем аздараўленне пройдзе ў дзве змены. Па такому ж сцэнарыю плануе работу і лагер дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы, што размесціцца ў Жупранскай сярэдняй школе. Хлопчыкі і дзяўчынкі, якія на працягу года паказалі добрыя вынікі ў спорце, будуць там не толькі адпачываць, але і трэніравацца.

На базе Клявіцкай СШ разгорнецца абаронна-спартыўны лагер, а для асоба адораных дзяцей прапануе свае плошчы Гальшанская адзінаццацігодка. Узяў пад апеку 40 дзяцей з розных школ горада і цэнтр пазашкольнай работы. Юныя ашмянцы ва ўзросце ад 6 да 12 гадоў разам падарожнічаюць, ходзяць у кіно, чытаюць цікавыя кнігі, гуляюць. Іх "Рамантыкам", такую назву носіць летнік, кіруе Марыя Іванаўна Вабішчэвіч, а дапамагаюць ёй займаць дзяцей тры выхавальнікі, важатыя, музычны кіраўнік і інш.

Сюрпрыз для сваіх наведвальнікаў і іх бацькоў падрыхтаваў сёлета міжгаспадарчы стацыянарны лагер "Дружба", што размешчаны на беразе Ашмянкі. Домікі, дзе будуць жыць дзеці, адрамантаваныя, пабудаваныя новыя ўмывальні з падагрэвам вады. Ажно ў тры змены збіраецца працаваць лагер, калектыў якога абяцае цікавы і паўнацэнны адпачынак. Першая змена заехала туды ў аўторак, 10 чэрвеня.

**Марына СЛІЖ.**

## Пуцёўкі па кішэні

**ВАЛОЖЫН. Клопатам аб дзецях жыве гэтымі днямі раён, дзе збіраюцца аздаравіць каля дзвюх тысяч школьнікаў.**

Больш за 580 ад агульнай колькасці, як паведамілі ў аддзеле адукацыі райвыканкома, адпачне ў лагерах з кругласутачным знаходжаннем, куды пуцёўка каштуе 144 тысячы рублёў. У той жа час бацькоўская даплата складзе толькі 14 тысяч, а за дзіця, што будзе аздараўляцца ў летніку з дзённым знаходжаннем, сям'я выдаткуе і таго менш – 5 тысяч рублёў.

Летнікі з дзённым знаходжаннем будуць працаваць ва ўсіх гарадскіх, а таксама сярэдніх школах раёна. Аздараўленне ў іх пройдзе больш тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Вада жывая і мёртвая

**Вада – самае дзіўнае хімічнае злучэнне, першаснова жыцця, геалагічных, атмасферных і іншых працэсаў. Усе ўласцівасці вады яшчэ не разгаданыя да гэтага часу. Вада можа неабмежавана доўгі час захоўваць інфармацыю аб нейкім арганізме, праз які прайшла, ці аб прыродным працэсе. Яна мае так званую “кластэрную” структуру. Малекулы вады могуць капіраваць структуру і ўласцівасці рэчыва пры надзвычай нізкіх яго канцэнтрацыях (мільённых ці яшчэ меншых).**



Вада – крыніца ўсяго жывога. Фота IREX/Promedia.

Навукоўцы выявілі і зусім фантастычныя ўласцівасці. У ходзе эксперыменту нейкая колькасць вады на суткі ставілася на таблічкі з надпісамі “Маці Тэрэза”, “Вайна”, “Бог”, “Дабро”, “Гітлер” і г.д. Потым яе пры нізкай тэмпературы крышталізавалі. Структура крышталяў з таблічак становучага эмацыянальнага фону была правільнай, сіметрычнай, гарманічнай. Напрыклад, крышталі з таблічкі “Бог” нечым нагадвалі мікраікону. Супрацьлеглыя па эмацыянальнаму фону крышталі мелі выпадковы характар, сіметрыя адсутнічала.

Таксама навукова даказана, што чалавек у стане змяняць кластэрную структуру вады сілай думкі нават на адлегласці. Думкамі мы спараджаем так званыя “сілавыя палі”, якія ўздзейнічаюць на ваду на любой адлегласці. У тым ліку і на ваду, з якой складаецца цела чалавека. Вось чаму “слова можа забіць” і “слова можа вылечыць”.

Уся наша агрэсія, забруджванне навакольнага асяроддзя, войны вядуць да глабальнага насычэння вады разбуральнай энергіяй, негатыўнай інфармацыяй. Але каб планета “не атруцілася”, прырода прадугледзела некалькі перасцерагаючых клапанаў: уся інфармацыя з вады знішчаецца пры кандэнсацыі яе з пары і пры растапленні са снегу або лёду. Яна зноў уключаецца ў прыродны і інфармацыйны кругазварот.

Зыходзячы з усяго вышэйсказанага, разумееш, што найперш трэба ратаваць экалогію душы чалавека, экалогію яго слоў і думак. Зварыш, напрыклад, ежу з любоўю – атрымаеш – любоў, зварыш з праклёнамі – атрымаеш атруту. Вада нясе інфармацыю нашых думак. Вось чаму так важны пазітыўны настрой людзей, якія прафесійна маюць справу з вадой.

Вада, асвечаная нават драўляным крыжам, мае супрацьбактэрыяльныя ўласцівасці. Яна гоіць раны, лечыць хваробы. Але гэта яшчэ не ўсё. Навукоўцы даказалі, што калі малую колькасць “святой” вады дабавіць у ёмістасць са звычайнай, уся вада становіцца “святой”. Сказваецца ўласцівасць вады дубліраваць і несці ў сваёй структуры пэўную закладзеную інфармацыю.

На гэтым дзіўныя ўласцівасці вады не абмяжоўваюцца. Хоць яна і называецца дыстыляванай, але ж нейкія іншыя злучэнні ў ёй прысутнічаюць. Дарэчы, дыстыляваная вада – атрута для раслін і жывёл. Дык вось навукоўцы вылучылі калонку абсалютна чыстай вады. І былі ўражаны. Калонка ўся-го ў некалькі міліметраў вытрымлівала на разрыў дзесяткі кілаграмаў грузу. Па такой вадзе можна хадзіць!

Сусвет вакол нас жывы, і Зямля – жывая. А мы праз ваду сваімі думкамі, агрэсіяй, забруджваннем навакольнага асяроддзя раз-пораз забіваем яе. Усміхніцеся, падумайце пра дабро. І гэта будзе першы крок да выратавання.

**Алег БЯГАНСКІ.**

P.S. У артыкуле выкарыстаны дадзеныя навуковых распрацовак некалькіх НДІ Расіі.

## Ці трэба размаўляць з кветкамі?

**Многія аматары раслін ставяцца да сваіх выхаванцаў як да разумных жывых істот.**

Кветкаводы сцвярджаюць, што іхнія ласкавыя словы і нават думкі спрыяльна ўплываюць на развіццё раслін. Вопыты з дэтэктарамі хлусні паказалі, што на небяспеку (пажар, рэзальныя інструменты) расліны рэагуюць “са страхам”. Аднак да гэтага часу незразумелая сенсарная сістэма раслін. Новыя доследы сведчаць: ультрагук стымулюе рост, анестэзіраванае дрэва лепш пераносіць перасадку, камерная музыка спрые росту раслін, а вось рок–музыка прыгнятае жыццёвыя працэсы і ў людзей, і ў жывёл, і нават у раслін. Таму і на дачы пажадана слухаць спевы птушак, а не грымець магнітафонамі. Чаму гэта ўплывае на расліны, яшчэ не высветлена. Аднак наўжо не можа існаваць тое, што мы не бачым, не чуем або не можам даказаць з дапамогай тэхнікі?

У Англіі распрацаваны спецыяльны апарат, які ўспрымае сігнал трывогі, які пасылаецца раслінамі, якім патрэбная вада. Тоны, падобныя на ўльтрагук у 1 МГц узнікаюць, калі рвуцца тоненькія капілярныя трубачкі, якія забяспечваюць расліны вадой. Так што кажыце хаця б зрэдку сваім любімым раслінам лагодныя словы, зрэдку пагладжвайце іхнюю лістоту і яны заплацяць вам у адказ пышным цветам і водарам. Аказваецца, і расліны рэагуюць на любоў як чалавек. Толькі ў адрозненне ад чалавека расліны любові не здраджваюць.

**Вікторыя ЗУБОВІЧ, інжынер садова-паркавай гаспадаркі.**

# «Надзея» – не толькі аздараўленчы цэнтр

**ВІЛЕЙКА. У дні чарнобыльскай трагедыі ў выставачнай зале Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея прайшла выстаўка-прэзентацыя творчых работ з дзіцячага цэнтра “Надзея”.**

## Вочы разбягаюцца

Як толькі пераступіў за парог выстаўкі – вочы разбегліся. Чаго тут толькі не было! І не выпадкова. Акрамя аздараўлення ў цэнтры “Надзея”, дзеці, якія прыбылі сюды з зоны, пацярпелай ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, вучацца ў школе, удзельнічаюць у спартыўных мерапрыемствах, наведваюць гурткі па інтарэсах. Усяго 15 відаў дзейнасці налічваецца ў цэнтры. Вось, напрыклад, куток работ дзяцей і падлеткаў з гуртка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якім дзевяты год кіруе **Таццяна Міхалевіч**. Дзеці ў яе гуртку майструюць цікавыя вырабы з саломкі, вяжуць, вышываюць, займаюцца аплікацыяй, выраблююць мяккія цацкі.

Выпілоўванню і разьбе па дрэве восем гадоў вучыць гуртоўцаў **Уладзімір Цэнунін** – выключна цікавы чалавек. І работы, што экспануюцца на выстаўцы, таксама цікавыя. У вольны ад работы ў гуртку час Уладзімір выкладае гісітарычны дысцыпліны ў школе цэнтра “Надзея”, піша вершы і музыку да іх, іграе на шматлікіх музычных інструментах. Гэта яго творчасці належыць песня “А над Віліяй мілай...”, якая пачынаецца са слоў:

*Там, дзе ранак зарой ружавее,*  
*Дзе ў чэрвені шум каласоў,*  
*Новы цэнтр,*  
*што завецца “Надзеяй”,*  
*Раптам вырас між*  
*гэтых лясоў.*  
*Шэпат хваляў*  
*Вілейскага мора,*  
*Раніцой туманы, ніды дым,*  
*І бярозы свой стан непакорны*  
*Выгінаюць пад ветрам сівым.*

Варта дадаць, што У.Цэнунін з'яўляецца і выдатным рыбаком-аматарам.

А **Міхаіл Ляснічы** столькі ж гадоў кіруе гуртком “Кераміка”. Вырабы яго навучэнцаў таксама знайшлі месца ў выставачнай зале.

Можна пазайздросціць вязаным рэчам сацыяльнага педагога **Вольгі Багуцкай**.

## І аповяд, і канцэрт

Пакуль я разглядаў шматлікія экспанаты, у зале на прэзентацыю пачалі збірацца людзі. Крыўдна, што мала прыбыло прадстаўнікоў з агульнаадукацыйных школ і іншых навучальных устаноў горада, хаця запрошаны былі многія. Але ж сілком не будзеш людзі. Галоўнае, што залу запоўнілі сапраўдныя аматары народнай творчасці, у тым ліку і шматлікая дэлегацыя з самага цэнтра “Надзея”.

На прэзентацыі выступалі работнікі Вілейскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея, якія і з'явіліся ініцыятарамі арганізацыі выстаўкі, госці з цэнтра “Надзея”. У рэшце рэшт, якія яны госці? На правах раўнапраўных гаспадароў яны расказвалі пра гісторыю стварэння і сённяшнюю дзейнасць дзіцячага цэнтра “Надзея”, дарослыя дзяліліся вопытам работы і разам з дзецьмі ўдзельнічалі ў канцэрце. Кожны нумар мастацкай самадзейнасці заслужыў дружных воплескаў. Як прафесійныя артысты трымалі сябе перад мікрафонам вучаніцы 8 “А” класа з Веткаўскай сярэдняй школы №2 **Віка Галле** і дзесяцікласніца з той жа СШ **Святлана Іванчыкава**.

Выдатна справілася з даручэннем вядучая праграмы **Аксана Бічун**. А што тут дзіўнага? Яна ж і працуе ў цэнтры вядучым спецыялістам па рабоце з грамадскасцю. Меснавіта ад яе ўдзельнікі прэзентацыі даведаліся шмат цікавага з біяграфіі “Надзеі”.

## А было яно так

Яшчэ ў 1992 годзе прадстаўнікі Беларусі і Германіі, клапоцячыся аб будучых пакаленнях, прапанавалі ідэю стварэння ў Рэспубліцы Беларусь спецыялізаванай установы для аказання дапамогі дзецям, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Распрацаваны праект “Надзея” з'явіўся праяўленнем міжнароднай салідарнасці і волі да доўгатэрміновага супрацоўніцтва.

Для ажыццяўлення праекта ў тым жа годзе было створана сумеснае дабрачыннае прадпрыемства “Надзея-XXI стагоддзе”.Падтрымку праекту, акрамя прадстаўнікоў Беларусі і Германіі, аказалі Чарнобыльскі дзіцячы фонд Японіі з Токіо і Міжнародная асацыяцыя фондаў міру з Масквы.

Пасля карпатлівай аб'яднанай працы на месцы былой біялагічнай базы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, размешчанага ў сасновым бары на беразе Вілейскага вадасховішча, 5 верасня 1994 года дзіцячы аздараўленча-адукацыйны цэнтр “Надзея” прыняў першых 60 дзяцей з Гомельшчыны і Магілёўшчыны. І вось ужо пяты год дзіцячы цэнтр можа прымаць да 200 і больш дзяцей за змену. Падчас навучальнага года з забруджаных радыенуклідамі тэрыторый сюды прыязджаюць дзеці ва ўзросце 10-15 гадоў цэлымі класамі ў суправаджэнні педагогаў на тэрмін ад 24 да 46 дзён, а ўлетку — групамі па 20-22 чалавекі, таксама ў суправаджэнні педагога, на 23 дні.

Са жніўня 1996 года стала традыцыяй у дзіцячым цэнтры “Надзея” праводзіць тыдні Японіі з удзелам японскіх валанцёраў, якія дзейнічаюць ад імя Чарнобыльскага дзіцячага фонду Японіі. Таму не дзіва, што на выстаўцы, у асобным пакоі, можна было хоць у некаторай ступені азнаёміцца з культурай гэтай краіны. Экспанаты, якія тут былі паказаныя, падораныя японцамі дзіцячаму цэнтру “Надзея” ў 1997 годзе, і іх каштоўнасць цяжка ацаніць.

## Усё — для аздараўлення

— Умовы, якія дабратворна ўплываюць на дасягненне нашай мэты, — гаворыць А.Бічун, — гэта экалагічна чыстае наваколле, прафесійная творчая работа педагагічнага і медатычнага персаналу, усіх супрацоўнікаў дзіцячага цэнтра. Нашы настаўнікі, сацыяльныя педагогі, медработнікі, повары і іншыя тэхнічныя работнікі робяць неабходнае для стварэння аптымальных умоў для аздараўлення і адукацыі дзяцей і падлеткаў.

Калі пакідаў выстаўку, пазнаёміўся з выхавальніцай Вілейскага прафесійнага ліцэя №1 **Людмілай Дубовік**. Яна сказала:

— Уражанне ад убачанага і пачутага небывалае. Я на многіх выстаўках пабывала, а такога, як тут, мала дзе бачыла. Што ж тычыцца карцін з тканіны, якія мяне асабліва ўразілі, я нідзе не сустракала. На правільным шляху знаходзіцца “Надзея”.

**Барыс МАНЦЭВІЧ.**

# Зборная краіны. Без нас...

**Мінулы тыдзень быў прысвечаны вялікаму футболу. Не чарговаму туру чэмпіянату краіны, а адборачным матчам да Еўра-2004 у Партугаліі.**

Зборная Беларусі ў суботу прымала на стадыёне «Дынама» зоркавую Галандыю, а ў сераду гуляла з Аўстрыяй. Паралельна высвятлялі адносіны маладзёжныя (узрост футбалістаў да 21 года на 1 студзеня года пачатку турніра) каманды.

## Маладзёжная зборная

Нам ёсць чым ганарыцца. Выступаюць за каманду віляйчанін Павел Бяганскі (прадстаўляе барысаўскі БАТЭ) і смаргонец Алег Попель (дубль маскоўскага «Лакаматыва»). «Маладзёжка» перамагла падрастаючае пакаленне «лятучых» галандцаў з лікам 2:1. Алег Попель адгуляў 65 хвілін на пазіцыі цэнтральнага абаронцы, атрымаў цотнае папярэджанне і ў Аўстрыю не паехаў. Каторы год смаргонец у Маскве не прыносіць беларусам радасці ўбачыць яго ў складзе асноўнай каманды чыгуначнікаў. Падбор футбалістаў чэмпіёна Расіі дастаткова высокі, і Юрыю Сёміну ёсць з каго выбіраць.

Іншая справа з Паўлам Бяганскім. Выхаванец Аляксандра Гармазы пасля выдатнай гульні ў мінулым сезоне сёлета забівае мала. Пры выдатных фізічных дадзеных ён не валодае неабходнай вынослівасцю і паступова страчвае давер трэнера Юрыя Пунтуса і балельшчыкаў. Аднак галандцам Павел забіў гол галавой, выйшаўшы на замену, і тым самым прынёс перамогу маладзёжнай зборнай.

## Нацыянальная зборная

З галандскімі зоркамі на гэтым тыдні на футбольным полі не сутыкнуўся ніхто з маладзечанцаў па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах.

Андрэй Мілеўскі, якога настаўнік зборнай Эдуард Малафееў выклікаў раней, у матчы чэмпіянату атрымаў сур'ёзную траўму, і, хутчэй за ўсё, два месяцы будзе па-за гульнёй. Дагэтуль ён меў стабільнае месца ў асноўным складзе мінскага "Дынама" і выйграў з камандай у маі Кубак краіны.

Не выклікалі ў нацыянальную зборную Уладзіміра Карыцьку, які выступае зараз у прэм'ер-лізе Расіі за «Тарпеда-Металург». Правы паўабаронца правёў 9 матчаў за сваю каманду (згуляна 11 тураў) і аддаў адну галявую перадачу. Зараз аўтазаводцы займаюць перадапошняе месца, а некалькі тыдняў таму на змену беларускаму трэнеру Сяргею Алейнікаву прыйшоў Валянцін Іваноў, пасля чаго справы клуба пайшлі ўверх. Адназначым, што ракіроўка галоўнага трэнера пакінула маладзечанца ў асноўным складзе.

Ці ўбачым мы яшчэ братоў Макоўскіх пад сцягамі краіны — пытанне, на якое можна адказаць: хутчэй не, чым так. За апошнія гады браты прыпадносілі столькі сюрпрызаў, што нешта вызначальнае сказаць цяжка. Зараз Міхаіл і Уладзімір трэніруюцца з дублем кіеўскага ЦСКА, не маючы права выступаць за гэту каманду – яны не заяўлены ў чэмпіянаце Украіны. Дарэчы, Уладзіміра напачатку года адлічылі з калінінградскай «Балтыкі» (першая расійская ліга).

Яшчэ адзін маладзечанец, Аляксандр Вяжэвіч, выступае за мінскае «Тарпеда-СКА». Падчас міжсезоння нападаючы шмат забіваў, але з пачаткам чэмпіянату справы пайшлі на спад.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Табло

■ **ГАРАДКІ**

Працягваецца клубны чэмпіянат. Вынікі матчаў нашых землякоў і становішча ў табліцах.

1 ліга. 25 мая. Мінск. "Аўтасіб" – СКА 2:0, СКА – "Шахцёр" 2:0.

8 чэрвеня. Краснае. СКА – МЭС 0:2, МЭС – Кэмпі 2:0.

| | |
|---|---|
| 1. МЭС | 10 |
| 2. Аўтасіб | 10 |
| 3. Кэмпі (-1) | 6 |
| 4. Нёман | 6 |
| 5. СКА (+1) | 3 |
| 6. Шахцёр | 0 |

2 ліга. 1 чэрвеня. Мінск. Юнацтва – МАЗ-БелАвія 2:0, Асіповічы – Юнацтва 2:1.

8 чэрвеня. Камунальнік – Маладзечнамэбля 0:2.

| | |
|---|---|
| 1. МАЗ-БелАвія | 9 |
| 2. Маладзечнамэбля (-1) | 7 |
| 3. Нёман-2 | 7 |
| 4. Асіповічы | 6 |
| 5. Юнацтва | 3 |
| 6. Камунальнік (-1) | 0 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **ЮНАЦКІ ФУТБОЛ**

СМАРГОНЬ. На базе мясцовай ДЮСШ прайшлі рэспубліканскія спаборніцтвы юнакоў 1987 г.н. Першае месца ў каманды Гомельскай вобласці. Другое месца ў прадстаўнікоў Міншчыны, у чыім складзе былі маладзечанцы Станіслаў Баламут і Міхаіл Лужынскі. Трэцімі сталі гаспадары з Гродзеншчыны, за якіх гуляў смаргонец Аляксей Беніцэвіч.

■ **АДЗІНАБОРСТВЫ**

МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат краіны ва ўсіх узростах па тайландскім боксе прайшоў у сталіцы. Прызёрамі сталі адзінаццаць выхаванцаў клуба "Гладыятар". Першых месцаў – чатыры.

Сярод дарослых перамаглі Аляксандр Панцюхоў (вагавая катэгорыя да 92 кг) з Чысці і Аляксандр Кароль (69 кг) з Аляхновічаў. Яны атрымалі права выступіць за зборную Беларусі на чэмпіянаце свету ў верасні на Украіне.

Сярод юніёраў перамаглі Павел Лапата (80 кг) з Маладзечна і Ала Івашкевіч (51 кг) з Чысці. Яны паедуць у ліпені ў расійскі Калінінград на свой чэмпіянат свету.

■ **МІНІ-ФУТБОЛ**

МАЛАДЗЕЧНА. 9 каманд прадпрыемстваў і устаноў разыгрывалі першынство раёна ў Цюрлях. Фінал жа адбыўся ў Чысці. Гаспадары з "Камунальніка" перамаглі трэнераў спартшколы прафсаюзаў. 3 месца занялі прадстаўнікі харчовага камбіната.

Асобна высвятлялі адносіны калектывы калгасаў. Тут перамаглі гарадзілаўцы.

Каманда ВРУП "Беразінскае" на "раёне" не выступала, бо заявілася для ўдзелу ў абласных спаборніцтвах сярод калектываў фізкультуры. І выступіла там вельмі ўдала, заняўшы 1 месца. А ў прайшоўшых абласных ездзілі ў Гродна на рэспубліканскі фінал, дзе занялі пачэснае 3 месца.

МЯДЗЕЛ. Сабраліся 9 каманд у вёсцы Нарач. Тройка прызёраў: 1. "Камунальнік" (Мядзел). 2. Пасёлак Нарач. 3. СШ№3 (Мядзел).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

## Прадстаўнікі рэгіёну змагаюцца за прызы

**Кубак Беларусі прайшоў на стадыёне "Дынама" ў Мінску, дзе даўно ляжыць вельмі дарагое пакрыццё на бегавой дарожцы, але ім зусім мала карысталіся.**

Зразумела, што кідальнікаў на футбольнае поле не пусцілі, таму яны змагаліся ў Стайках.

Прызавымі месцамі адзначыліся спартсмены, якія родам з нашага рэгіёну. 1 месца – **Аксана Васілеўская** (Маладзечна) – 3 км з перашкодамі – 10.24,92. 2 месца – **Наталля Харанэка** (Ашмяны) – штурханне ядра – 18,05. 2 месца – **Васіль Капцюх** (Маладзечна) – кіданне дыску – 61,76. 3 месца – **Аляксандр Малашэвіч** (Смаргонь) – кіданне дыску – 60,92. 3 месца – **Алена Куцкевіч** (Маладзечна) – 3 км з перашкодамі – 12.03,30.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **АНОНС**

**13 чэрвеня. 17-00. Маладзечна-2000 (дубль) – Лакаматыў (Мінск, дубль)**
1 ачко, 16 месца – 6 ачкоў, 13 месца.

**14 чэрвеня. 18-00. Маладзечна-2000 – Лакаматыў (Мінск)**
5 ачкоў, 15 месца – 6 ачкоў, 13 месца.

**15 чэрвеня. 18-00. Смаргонь – Камунальнік (Слонім)**
+1=0-1 1-1. Летась 0:1 на выездзе і 1:0 (Дзігілевіч) дома

**15 чэрвеня. Верас (Нясвіж) – Забудова**
+3=1-6 7-13. Летась 1:5 (В. Ваўчок) на выездзе і 1:0 (Мірановіч) дома

**15 чэрвеня. Маладзечна. Гарадошны стадыён. 11-00.**
Апошнія матчы 1 круга чэмпіянату 2 лігі. Збіруцца ўсе каманды: "Маладзечнамэбля" згуляе з "МАЗ-БелАвія" і "Асіповічамі". "Юнацтва" згуляе з "Камунальнікам".
4 месца, 13 ачкоў – 7 месца, 10 ачкоў.

**18 чэрвеня. Нёман (Гродна) – Маладзечна-2000**
+4=5-11 18-28. Летась 0:1 дома і 0:2 на выездзе

■ **ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА**

## Судзейства сапсавала матч

**8 чэрвеня. Забудова – Баранавічы 0:3 (0:1)**

Суддзя Бензікаў, 500 гледачоў. Галы: Сергель (19-пен, 65, 75).

Склад: 1.Кіркіж – 4.Пятроўскі (15.Байлукоў, 69), 2.Невядомскі, 5.Гулевіч, 3.Івашкевіч – 6.Татун (12.Гружэўскі, 78), 10.Вышынскі, 9.Смірноў (18.Казяк, 46), 8.Антановіч (14.Абановіч, 46) – 7. Мірановіч (17.Савіцкі, 71), 11.Півавар

Кіркіж парыраваў пенальці на 75-й хвіліне.

Выдалены Артамонаў (Баранавічы) на 90-й хвіліне

Два пенальці ў вароты гаспадароў – рэдкая з'ява: нападаючыя гасцей з лёгкасцю падалі ў чужой штрафной. Непрыемна было сачыць за падзеямі на полі напачатку другога тайма, калі пры патуранні Бензікава баранавічцы сталі шчыра цягнуць час: доўга лячылі прама на полі траўміраванага гульца, марудзілі з заменамі, іх запасныя падышлі да варот, даўшы суддзі падставу бегаць-праганяць. Канчаткова ён згубіў кантроль над сітуацыяй напрыканцы матча, калі каманды некалькі разоў счапіліся ўракапашную, а аднаго з гасцей выдаліў за неспартыўныя паводзіны.

У першым тайме госці валодалі гульнявой перавагай. У другім тайме яны аддалі ініцыятыву, затое сталі выконваць далёкія перадачы за спіны нашым абаронцам. Так быў забіты другі гол, калі нападаючы выйшаў сам-насам з Кіркіжам з левага краю, і зароблены пенальці, які наш варатар пацягнуў, але сапернік згуляў на дабіванні.

Пасля перапынку на дзеяннях гасцей адбілася і стомленасць. А ў забудоўцаў пачалі ўзнікаць добрыя моманты. Пры ліку 0:1 Мірановіч (чысцінцы дазаявілі свайго лепшага бамбардзіра двух апошніх сезонаў) з правага кута штрафной прабіў у блізкую штангу. Пры ліку 0:2 партнёры вывелі Савіцкага на рандэву з галкіперам, але 17-цігадовы Антон прабіў у "варотчыка", а потым, зачапіўшыся за яго, упаў. І тут суддзя даў маху: трэба было назначаць пенальці, альбо папярэджанне за сімуляцыю. Адразу ж Вышынскі небяспечна прастрэліў справа, але Півавар схібіў, імкнучыся прабіць злёту ў пустыя вароты.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **ФУТБОЛ, ВЫНІКІ**

**4 чэрвеня. 1/32 Кубка. Забудова – Камунальнік (Слонім) 0:0 (па пенальці 4:2)**

300 гледачоў. Суддзя Яўневіч. Пасляматчавыя пенальці: 1:0 – Казяк, 1:1, 2:1 – Грыхуцік, 2:2, 2:2 – Антановіч ударыў міма, 2:2 – Кіркіж парыраваў, 3:2 – Татун, 3:2 – Кіркіж парыраваў, 4:2 – Вышынскі.

Склад: 1.Кіркіж – 4.Пятроўскі, 2.Невядомскі, 5.Гулевіч, 10.Савіцкі (14.Вышынскі, 78), 3.Івашкевіч – 7.Абановіч (15.Чарнель, 46), 9.Смірноў (18.Казяк, 60), 8.Антановіч – 6.Татун, 11.Грыхуцік.

**4 чэрвеня. 1/32 Кубка. Камунальнік (Жлобін) – Смаргонь 1:2 (1:1)**

2500 гледачоў. Суддзя Пырэеў. Галы: (22); Хіманыч (19-пен), Грабаздзін (80)

Склад: Хіманыч, Трындзюк, Судзін, Курак, Мазалоўскі, Кукалевіч (Жачко, 81), Карасёў, Дукса, Дзігілевіч (Мяць, 46), Грабаздзін, Валовік (Казлоў, 57)

**8 чэрвеня. Граніт (Мікашэвічы) – Смаргонь 2:0 (2:0)**

1500 гледачоў. Суддзя Звярок. Галы: (24), (44)

Склад: Хіманыч, Мазалоўскі (Мяць, 46), Судзін, Курак, Кашкар, Кукалевіч, Карасёў, Дукса (Казлоў, 72), Трындзюк, Грабаздзін, Валовік (Дзігілевіч, 46)

Пасля 8 тураў смаргонцы дзеляць 8-9 месцы са слонімскім "Камунальнікам", якога прымуць у наступным туры.

**9 чэрвеня. Кантрольны матч. БАТЭ (Барысаў, другі склад) – Маладзечна-2000 1:0.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **ТУРЫЗМ**

## Будні злёту

**МАЛАДЗЕЧНА. З 6 па 8 чэрвеня ў раёне Чарчонава прайшоў гарадскі турыстычны злёт.**

У злёце прынялі ўдзел 12 школьных каманд, немецкая дэлегацыя з горада-пабраціма Эслінгена і каманда БРСМ. Удзельнікаў чакалі захапляльныя тры дні на прыродзе з насычанай праграмай, у якую акрамя асноўных конкурсаў (спартыўнае арыентаванне, тэхніка пешага турызму) уваходзілі конкурсы турыстычнай песні і касцюма, плакатаў, спаборніцтвы па футболу, валейболу, дыскатэка.

Пераможцаў выявілі ў дзвюх групах: старэйшай, вучні 10-х класаў, і малодшай, вучні 8 класаў. У старэйшай групе перамагла каманда тургуртка "Эдэльвейс" СШ №7, а ў малодшай – каманда школы №5. Гэтых пераможцаў чакае абласны турзлёт.

**Яўген САВІЦКІ.**

## «Пілігрым» – другі

**На XXII рэспубліканскім адкрытым турысцкім марафоне "100 км за 24 гадзіны" каманда турыстаў з маладзечанскага турклуба "Пілігрым" заняла другое агульнакаманднае месца.**

А Андрэй Дзяніс і Уладзімір Цай сталі чэмпіёнамі ў асабістым заліку ў сваіх узроставых групах.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

## Нашы прызёры

**ВІЛЕЙКА. 5 – 7 чэрвеня на беразе ракі Пціч каля г.п. Капаткевічы на Гомельшчыне адбыўся II рэспубліканскі турзлёт арганізацый Камітэта па Чарнобылю. 2-е і 3-е месца занялі адпаведна каманды аздараўленчых цэнтраў "Лясная паляна" са Смаргоні і "Надзея" з Вілейкі. Першае месца атрымала каманда гаспадароў.**

Усяго ў спаборніцтвах узялі ўдзел 8 каманд. Рэспубліканскія турзлёты аздараўленчых прадпрыемстваў сталі традыцыйнымі з ініцыятывы ДРАЦ "Надзея", якая летась арганізавала першы турзлёт на беразе Вілейскага вадасховішча. Тады ў спаборніцтвах удзельнічалі 5 каманд. Месца правядзення наступнага турзлёту ў 2004 годзе пакуль не вызначана. Найбольш верагодна ім стане Смаргонь.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

